# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 49 (3160) Год LXI Беласток, 4 снежня 2016 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)




Беларускія абрады → 3



Малы памежны рух → 9





Спадчына



Мацей Жыўна, Анатоль Вап, Яўген Вапа



Валянціна, Віктар, Наталька Шведы



Люба Гаўрылюк, Ала Каменская





Марыя Рудчык, Міра Лукша, Яўгенія Палоцкая



Віктар Бура, Віталь і Марыя Лубы, Пятро Юшчук



Юры Каліна, Яўген Чыквін, Міраслаў Раманюк, Славамір Назарук, Яўген Міроновіч



Васіль Сегень



Надзея Артымовіч і Алег Кабзар



Дыяна Нахіла, Галіна Рамашка, Ганна Кандрацюк, Іван Карсунскі і Уля Шубзда



Ян Чыквін



Гражына Харытанюк-Міхей, Іаанна Чабан, Лена Глагоўская, Вера Валкавыцкая, Галіна Дапэнга-Валкавыцкая

*Лодзь, 26 лістапада 2016 года*

## *«Ніва», Наша, Дарагая, Родная!*

*Б-у-д-з-ь!!! Ж-ы-в-і!!!*

*Гадоў Тваіх лічыць не буду, маеш — колькі маеш!!!... Ты для нас з-а-ў-с-ё-д-ы м-а-л-а-д-а-я !!!... Гэта м-ы пастарэлі!... Вось, свята Твае сёння, 26 лістапада — віншуем! Цалуем! Абдымаем! Я — асабліва, бо ў гэты дзень было маё архіерэйскае нараджэнне... Выбачай, у лодзінскім саборы буду служыць і за Ц-я-б-е памалюся...*

*Гады нашы супольныя перапляла нам «Белавежа», якая сабрала нас: паэтаў і празаікаў Кутка Нашага Роднага, Пушчы нашай, Вежы Белай... Нам р-а-з-а-м ТРЭБА, з-а-ў-с-ё-д-ы! Друкуй нас, не забывай, мы г-э-т-а-к толькі і жывем! Цябе с-в-а-ё-й маем! Бо с-в-а-е заўсёды р-а-з-а-м!*

*У шчасці і ў нядолі!!!... Табе т-о-л-ь-к-і дабра! Сілы — мацаты, на многая лета!!!... З любоўю, сардэчнасцю*

*+ Сіман,*
*архіепіскап у Лодзі*





# Рэзалюцыі
## і шляхі іх рэалізацыі

Якая б вайна не вялася — халодная, гарачая, гібрыдная ці халера ведае якая яшчэ, усе яны праходзяць пры непасрэдным удзеле інфармацыйнай кампаніі. Інфармацыйную атаку можна параўнаць з галоўнай дыверсійнай групай, якая закідваецца ў тыл непрыяцеля з мэтай знішчыць або паралізаваць усе яго дзейсныя сістэмы. А сама інфармацыйная вайна вядзецца як непасрэдна падчас усялякай вайны, так і да яе, ну і пасля.

Увесь час вядзецца.

Сродкі, якімі карыстаюцца „генералы" інфармацыйнай кампаніі, нічым не адрозніваюцца ад тых, якімі карыстаюцца іх баявыя калегі. І залежаць яны выключна ад ступені подласці палітычнай улады канкрэтнага ваюючага боку.

На вайне, як на вайне.

Хто прайграе інфармацыйную вайну, наўрад ці можа разлічваць на перамогу ўвогуле. Еўрасаюз зараз ускосна прызнаўся, што першы раўнд у гэтым кірунку ён прайграў з разгромным, і ў дадатак з сухім лікам. Прычым прайграў усім. Ісламскай дзяржаве, Расіі, ісламскім тэрарыстычным групоўкам... Усім каму толькі можна. І зараз спахапіўся ў халодным поце. І вось ужо дэпутаты Еўрапейскага парламента нарэшце ўхвалілі рэзалюцыю аб супрацьдзеянні антыеўрапейскай прапагандзе, якую, на іх думку, вядуць Расія і ісламскія тэрарыстычныя групоўкі.

Ну лепш позна, чым ніколі.

Дакумент сапраўды гістарычны, і патрабуе павышанай увагі. Ну як да яго сур'ёзна не паставішся, калі там чорным па белым акрэслена важнейшыя аспекты еўрапейскай інфармацыйнай бяспекі. Прынамсі там сказана, што „варожая прапаганда супраць ЕС і яго дзяржаў-членаў накіравана на тое, каб сказіць праўду, выклікаць сумненні, раз'яднаць Еўрасаюз і яго партнёраў у Паўночнай Амерыцы, паралізаваць працэс прыняцця рашэнняў, дыскрэдытаваць інстытуты ЕС, а таксама пасеяць страх і няўпэўненасць сярод грамадзян Еўрасаюза". Жах!

Цікавыя назіранні! Тут цяжка з чым паспрачацца.

Зрэшты, асабіста я не прачытаў тут нічога новага. Пісалі пра гэта задоўга да прыняцця гэтага дакумента безліч журналістаў, думку якіх чамусьці ўсе гэтыя доўгія гады проста ігнаравалі. І нават на бязмежных прасторах былога Савецкага Саюза пра заражэнне і развіццё расійскай прапагандысцкай сістэмы білі ў званы большасць незалежных СМІ, пакуль паслясавецкія таталітарныя рэжымы іх не пазачынялі. Пра гэта ў тым жа СНД крычалі ў тры гарлякі апазіцыйныя палітыкі, але за перамовамі еўрапейскіх палітыкаў з паслясавецкімі таталітарнымі ўладамі іх ніхто не хацеў пачуць. Ды і ў самой старэнькай Еўропе хапала аналітыкаў, якія сігналізавалі еўрапейскім чыноўнікам пра рэальны стан рэчаў. Але палітыка паліткарэктнасці і яшчэ безлічы нейкіх там навамодных слоў выконвала ролю глушылак падобнай інфармацыі.

І вось зараз адбыўся такі кардынальны прарыў свядомасці! Відаць прыпякло канкрэтна. Больш не да жартаў.

„Еўрасаюзу, — падкрэсліваецца ў дакуменце, — неабходна больш актыўна прымаць меры па барацьбе з кампаніямі па дэзінфармацыі і прапагандзе".

І вось тут надыходзіць самае цікавае. А якія ж гэта меры?

Пра супрацьдзеянне антыеўрапейскай прапагандзе ад, прыкладам, Ісламскай дзяржавы, разважаць бессэнсоўна. Гэтым мусяць займацца спецслужбы. А вось з Расійскай прапагандай мы ў Беларусі знаёмыя непасрэдна. Пад яе ўплывам жывем больш двух дзесяцігоддзяў, і мала каго гэта хвалявала. Мала хто гэтаму надаваў такое значэнне, якое зараз мы пачулі ў рэзалюцыі.

І тым больш дзіўным успрымаецца тое, што размовы пра супрацьдзеянне псеўдаінфармацыі і антыеўрапейскай агітацыі вядуцца пад ужо традыцыйныя страхі і чуткі, што могуць застацца без падтрымкі тыя нямногія медыі, скіраваныя на атрымальнікаў інфармацыі ў Беларусі, якія гэтай барацьбой з псеўдаінфармацыяй і без усялякіх рэзалюцый займаліся цягам усяго свайго існавання.

Зрэшты, аўтары рэзалюцыі пра гэты аспект напэўна добра ведаюць, бо сама рэзалюцыя, якая, дарэчы, носіць толькі рэкамендацыйны характар, падрыхтаваная дэпутатам ад Польшчы Аннай Фатыгай. А для польскіх палітыкаў гэта тэма не новая.

Ну што ж. Рэзалюцыі адно, а метады іх рэалізацыі другое.

Паглядзім як яно будзе на практыцы.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Хто пажыве,
## хто дажыве



Скрынка Пандоры гэта не кансерва са змолатых мясных адходаў. Яе змесціва абсалютна цяжкатраўнае. «Перамолку» можна неяк няўпэўнена з'есці, пры ўмове, што з заплюшчанымі вачыма, і, вядома ж, калі яе багата абклеіш гарчыцай. Такой вострай, чорнай гарчыцай. Для смаку. Або маскіроўкі. Як быццам глытаеш кансерву, а адчуваеш толькі горкае паленне! Ну, лепшы смак гарчыцы, чым мярзотнай перамолкі! Але хаця яна і самая благая, я саскрэбваю бляшанку да беласці, так, быццам бы хацеў знайсці пры донцы смак пармскай вяндліны. І хто ведае, можа быць, калі-небудзь даскрабуся хоць да яе малюсенькай рэшткі? У любым выпадку, я працягваю спадзявацца. Часам замест гарчыцы выкарыстоўваю варэнне. Дзеля асалоды жыцця. Часам абкладваю яе і гэтым, і гэтым. Гэта дзеля душэўнай раўнавагі. Іншая справа тое, што адбываецца тады з маім страўнікам. Але перад плёнам, у маім выпадку кожны месяц на працягу трох тыдняў да кожнай выплаты, не можа быць інакш. Жару «перамолку» і прэвентыўна глытаю актываваны вугаль. Што ж, такі лёс... Хацелася б сказаць, «лёс чалавека». У ім добрае пераплятаецца з дрэнным, прыгожае з выродлівым, вось такая трапеза... жыццёвая. У адрозненне ад яе, тое, што змяшчае скрынка Пандоры, немагчыма без агіды ці есці, ці нават цярпліва перанесці, прытым нават з найсаладзейшым сочывам. Таксама з самай пякучай гарчыцай. Хопіць прачытаць на зжоўклай этыкетцы, якія інгрэдыенты ўключаныя ў яе састаў — адны і тыя ж таксіны! Нейкія антычныя «Е»-дабаўкі, архетыпічныя яды чалавечай цывілізацыі, адным словам, адны і тыя ж няшчасці: хвароба, здрада, паклёп, вайна, нянавісць... Дарэчы, цікава, што на той жа этыкетцы, што акаляе скрынку Пандоры, не вызначана тэрмін яе прыгоднасці. Як быццам тое змесціва было для чалавекам ядомым, прытым бясконца. Толькі што такое тая бясконцасць? Існаванне чалавечага віду? У агульнай складанасці, чалавек неяк пераварвае і войны, і здрады, да таго часу, пакуль яны не ў лішку. На жаль, так яно і ёсць. Сёння ўсё ў лішку. Не хапае толькі святога міру. І спакою. І нейкай неабходнай для жыцця раўнавагі. Можа, надзеі? Тут, дазвольце мне нагадаць вам, што скрынка міфічнай Пандоры змяшчала не толькі чалавечыя пакуты, але і Надзею. Так кажуць грэчаскія міфы — быццам бы казкі. Так, але гэта казкі для дарослых. Трактуючы іх з поўнай сур'ёзнасцю і належнай павагай як суму чалавечага вопыту і ведаў інтуітыўна ахопленых у выглядзе антрапалагічных метафар, мы можам паглядзець на нашу прамінуласць і меркаваную будучыню. Пішу «бліжэйшую», таму што пра тую ў больш доўгатэрміновай перспектыве я мяркую з песімізмам. Ну, але засталася мне яшчэ Надзея. А з ёю было так: калі Эпіметэй (яго імя азначае «мудры запозна»), муж Пандоры, адкрыў скрынку, якая з'явілася пагрозлівым падарункам ад Зеўса, адразу ж вылецелі адтуль усе няшчасці, якія пераследуюць чалавецтва. Усе, акрамя Надзеі, што цвёрда прытрымлівалася дна. Эпіметэй, што мае важнае значэнне для гісторыі, быў братам высакароднага Праметэя, які скраў у багоў агонь і навучыў людзей ім карыстацца. У той час «людзьмі» лічыліся мужчыны. Жанчын не было. Пачын Праметэя вельмі не спадабаўся багам зайздросным за ўладу над людзьмі, асабліва зажэртаму ў злосці Зеўсу. Ён загадаў Гефесту зляпіць з гліны першую жанчыну, якую ён назваў Пандора, або «адораная ва ўсё». І таксама крывадушна ахвяраваў Пандоры злараднную скрынку. А з ёю і няшчасці, і Надзею. Віну за ўсе чалавечыя пакуты звальваюць на Пандору, жанчыну. Несправядліва. Бо хто ж адкрыў скрынку, якая належала ёй? Ейны муж — «мудры запозна» — мужчына. Падобную скрынку, толькі што прэм'ер Шыдла, адкрыў у сучаснай Польшчы мужчына, які, несумненна, акажацца — «разумным запозна» — «заднім розумам моцным» — Яраслаў Качынскі. Не інакш стала ў Беларусі, Венгрыі, Расіі, Турцыі, ЗША. У той жа час, калі ва ўсіх гэтых краінах назіраецца павелічэнне спажывецкага попыту на свойскія кансервы. З-за гаспадарчых, эканамічных і грамадскіх прычын. Ва ўсякім выпадку, нягледзячы на з'яўленне ілюзіі дабрабыту, з усяго свету цяпер чутны гук нецярплівага паскрэбвання відэльцаў аб дно пустых кансерваў. Надзея, як чуем, людзям засталася. На дне будучыні. Гэта няшмат, але можа быць дастаткова хоць столькі, каб перажыць усе беды. Пажывем, убачым. Адно толькі што... Хто пажыве, хто дажыве?

**Мірaслаў ГРЫКА**



### Сваімі вачыма

# Ніўскія дарогі

Беластоцкая «Ніва» нарадзілася пяцьдзясят гадоў пасля «Нашай нівы», якой сто дзясятую гадавіну ўзнікнення адзначылі 23 лістапада. Праіснавала яна ўсяго дзевяць гадоў да жніўня 1915 года. І менавіта гэтых дзевяць гадоў у гісторыі беларускай літаратуры і культуры называецца «нашаніўскім перыядам». А глянем на яе пачаткі. Тыраж «Нашай нівы» ў сакавіку 1907 года складаў 1500 экзэмпляраў. На пачатку 1909 года — 2 000, а ў красавіку таго ж года — 2916 экзэмпляраў. Памаленьку ўзрастаў пад пяць тысяч, але па розных прычынах — палітычна-эканамічна-культурных, не набыў шматтысячнай масавасці. Для нас, беларусаў Беласточчыны, самым важным з'яўляецца тое, што на старонках «Нашай нівы» рэгулярна друкаваліся інфармацыі пра жыццё на Падляшшы, апісанае таксама мясцовымі аўтарамі. Аднак значэння гэтага выдання, складу тадышняй рэдакцыі і ейных аўтараў не пераацаніць нам у навейшай гісторыі беларусаў першай паловы дваццатага стагоддзя. Ідэі беларускай нацыянальнай справы, кінутыя рэдакцыяй, сталі падмуркам пад думанне ў катэгорыях незалежнай дзяржаўнасці. Натуральнай паслядоўнасцю быў акт 25 сакавіка 1918 года і абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі, а потым збройнае змаганне за незалежнасць у ходзе Слуцкага збройнага чыну ў 1920 годзе, 96 гадавіну якога адзначылі зараз. Трэба таксама ўзгадаць, што на дапамогу случчакам ішлі змагары беластоцкага батальёна маёра Дзямідава і прадстаўнікі бельскага роду Кастыцэвічаў.

Праз пяцьдзясят гадоў ад выхаду віленскай «Нашай нівы» і пасля страшных катаклізмаў беларускай гісторыі ў выглядзе бежанства, першай і другой сусветных войнаў, трагічных для нас, беларусаў у Польшчы, пасляваенных падзей, тры гады пасля смерці Сталіна ў сакавіку 1956 года на Падляшшы стала выходзіць беластоцкая «Ніва» — тыднёвік, які на працягу ўсіх гэтых гадоў з'яўляецца нашай і вашай апорай. Апорай для беларускага слова і духу. Ад Буга па Бобру беларускае друкаванае слова ў рэальнасці трапляе пад тадышнія сялянскія стрэхі. З гэтай пары адкрывае і апісвае яна наш беларускі свет і паказвае, што па-беларуску можна і трэба пісаць не толькі пра штодзённыя, жыццёвыя справы. Але і творы абстрактнага мышлення і літаратурна-мастацкага ўяўлення загучалі на ёй таксама прыгожа. Таксама ўражвае вялікі спектр тэм, якія закраналіся газетай, як і разнастайнасць форм журналісцкага пісання. А пры тым поўная свядомасць патрэбы запісвання, прыгадвання мінулага беларусаў у Польшчы і беларусаў увогуле. Гэта менавіта тая справа, пра якую ўсе мы гаворым: наша жыццё, наша нацыянальная свядомасць павінна перш за ўсё абапірацца на гістарычную памяць.

Беластоцкая «Ніва» становіцца народнай газетай, якая дазваляе ўсім тадышнім праслойкам грамадства знайсці ў ёй сваё месца. Звычайна, так па чалавечы — проста пасябраваць. Таму нічога дзіўнага, што паняцці кшталту «ніўская сям'я» сталі рэальнымі зваротамі, а не толькі пустымі словамі. Таксама і тыраж беластоцкай «Нівы» не быў найменшым. Параўноўваючы яго з віленскай «Нашай нівай» у пэўныя моманты — нават вышэйшым. Думаю, з перспектывы часу многім людзям гэта будзе лепш бачна. Але як у адным, так і ў другім рэдакцыйным выпадку самае галоўнае — гэта людзі. Людзі беластоцкай «Нівы» на фоне тадышніх польскіх выданняў, сваёй журналісцкай і інтэлектуальнай спеласцю перавышалі часта сваіх польскіх калег. Хопіць толькі ўзгадаць што беластоцкі аддзел Саюза польскіх пісьменнікаў сваё апірышча меў непасрэдна ў ніўскіх пісьменніках, або людзях узгадаваных нашай рэдакцыяй. Калі гартаю падшыўкі тыднёвіка, то ідэалагічнай даніны тадышняга часу было столькі, колькі патрабавала ўлада і ад другіх рэдакцый. Самае важнае месца адводзілася беларускасці. Беларускасці, якая яднала беларусаў Усходу і Захаду і была магчымая, дзякуючы розуму і адказнасці папярэдніх галоўных рэдактараў і тадышніх журналістаў. У «Ніву» пісалі людзі з усяго свету: з Амерыкі, Аўстраліі, Заходняй Еўропы, дзе былі асяродкі беларускай эміграцыі, а таксама і людзі з тагачаснай Савецкай Беларусі.

Часта мы любім жартаваць што «Ніва» — як царква, яе дзверы і старонкі для ўсіх адкрытыя. Так было з пачатку яе існавання і так, спадзяюся, будзе надалей. Аднак у гісторыі «Нівы» бывалі і свае слабейшыя моманты, асабліва на фоне палітычных крызісаў і падзей 1956, 1968, 1970, 1976, 1980 ці 1989 гадоў. У выніку палітычных націскаў з боку ўлады некаторыя журналісты ці карэспандэнты зыходзілі з рэдакцыі і супрацоўніцтва. Таксама так як і ўсюды амбіцыйнасць некаторых людзей была і прычынай ўнутрырэдакцыйных канфліктаў і раздораў. Ясна, што часамі на гэтым цярпелі і чытачы. Але самае галоўнае, што рэдакцыйны касцяк працаваў не толькі на адным адрэзку журналісцкай працы. Займаліся яны адначасна выбудоўваннем нашай беларускасці і ў другіх дзялянках.Таму некаторыя згарэлі заранёў, не паспеўшы завяршыць усіх сваіх планаў і ідэй.

**Яўген ВАПА**

# «Беларускі абрад на сцэне»

**Фінальныя выступленні ў рамках XXIII Прэзентацый абрадавых калектываў «Беларускі абрад на сцэне» арганізавала 20 лістапада ў Гайнаўскім доме культуры Галоўнае праўленне БГКТ з дапамогай працаўнікоў дома культуры. Цікава запрэзентаваліся там 13 груп, разам больш за 200 асоб, а былі гэта члены беларускіх музычных калектываў і тэатральных груп. Яны раней паказвалі абрады і тэатральныя пастаноўкі падчас раённых аглядаў, якія адбыліся ў Беластоку (два разы), Бельску-Падляшскім і Дубічах-Царкоўных. Каб пабачыць выступы ўсіх удзельнікаў абрадавых прэзентацый, трэба было прыбыць у Гайнаўку на цэнтральны агляд, дзе ўдала выступілі здольныя акцёры старэйшага пакалення, на якіх у асноўным абапіраюцца нашы музычныя калектывы, хары, а таксама здольныя дзеткі і моладзь — члены тэатральных груп, якія дзейнічаюць у дзіцячых садках, школах і дамах культуры. Важна, што менавіта вучні вяртаюцца да традыцый, развучваюць даўнія абрады, вучацца акцёрскім умеласцям і выступаюць на сцэне. Тут вялікая заслуга іх апекуноў — аматараў тэатральнай дзейнасці, якія рыхтуюць дзеткі і моладзь выступаць па-беларуску і са сваімі дашкольнікамі і вучнямі прэзентуюць абрадавыя сцэнкі падчас аглядаў.**



■ «Асенні ліст» з Гарадка запрэзентаваў абрад «Выпраўленне да шлюбу»

Многа людзей сабралася ў канцэртнай зале дома культуры, а выступоўцы трымалі жывы кантакт з гледачамі, якія эмацыйна ўспрымалі паасобныя абрадавыя пастаноўкі, часта смяяліся і вельмі горача апладзіравалі выканаўцам. Мерапрыемства ўдала вяла Паўліна Паўлючук-Коська. Сярод публікі былі войт Гайнаўскай гміны Люцына Смактуновіч, бургамістар Гайнаўкі Ежы Сірак, яго намеснік Андрэй Скепка, стараста Гайнаўскага павета Міраслаў Раманюк, старшыня ГП БГКТ Ян Сычэўскі, яго намеснік Васіль Сегень, працаўніца БГКТ Кацярына Філіпюк і дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч. Дашкольнікі і вучні прэзэнтавалі абрады ўжо ў мінулых гадах, але на сёлетнім цэнтральным аглядзе цікава выступіла намнога больш дзетак і моладзі, чым у мінулых гадах. Было б іх яшчэ больш, але прыхварэлі і не выступілі дашкольнікі з калектыву «Калебка» Самаўрадавага прадшколля № 1 у Гайнаўцы, якіх да сцэнкі «Квашанне капусты» падрыхтавалі настаўніцы Мірослава Ніканчук і Ала Супрун. Затое з абрадам «Кірмаш» займальна запрэзентаваліся і паказалі свае акцёрскія здольнасці дзеткі з Самаўрадавага прадшколля № 14 у Беластоку, якіх успамагалі на сцэне іх бацькі і настаўнікі. Да выступу рыхтаваліся яны з дапамогай настаўніц Дануты Тымашэвіч і Анны Бабік. Цікава запрэзентаваліся з абрадам «Выпяканне каравая» вучні з калектыву «Жэўжыкі» Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Бельску-Падляшскім, якімі апякуецца Анна Фіёнік.

— Мы ўжо доўга займаемся ў калектыве «Жэўжыкі» і нам падабаюцца выступы на сцэне, — сказалі дзеткі з бельскай «тройкі», якія па-акцёрску паказалі *дзявочы вечар* з выпяканнем каравая і спяваннем даўніх народных песень.

— Мы падрыхтавалі *дзявочы вечар* на падставе вясельнага абраду з вёскі Крывец Нарваўскай гміны. Канешне, ён спрошчаны для патрэб дзетак у школьным узросце, але захавалі мы арыгінальныя песні і прымаўкі, — сказала апякунка «Жэўжыкаў» Анна Фіёнік.

Калектыў з Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Орлі цікава запрэзентаваўся з абрадам «Рагулькі. Светлая нядзеля». Вучняў рыхтавалі да выступу арлянскія настаўнікі Альжбета Цюлькевіч і Дар'юш Гарадзецкі.

— Мы першы раз паказваем абрад. Запрэзентуем рагулькі, бо яны тычацца радаснага велікоднага перыяду, хаця песні складаныя для выканання, — заявіла настаўніца Альжбета Цюлькевіч.



■ Калектыў «Антракт» выступіў з пастаноўкай «З дзённіка Веры Бусловіч»

— Адметнасцю XXIII Прэзентацый абрадавых калектываў «Беларускі абрад на сцэне» з'яўляецца выступ вялікай колькасці дзетак і моладзі з Бельска-Падляшскага, Беластока, Гайнаўкі, Нарвы і Орлі. Вучні дакладна вывучылі партыі сваіх дыялогаў, бо старэйшыя асобы, якія памятаюць абрады яшчэ са сваёй маладосці, часта імправізуюць. Мы паказваем нашы абрадавыя традыцыі. Дзеткі і моладзь знаёмяцца са спадчынай, а дарослыя асобы могуць параўнаць нашу вясковую культуру з розных месцаў на Беласточчыне, — гаварыў намеснік старшыні ГП БГКТ Васіль Сегень.

Стараста Гайнаўскага павета Міраслаў Раманюк і бургамістар Гайнаўкі Ежы Сірак лічаць, што прэзентацыю абрадаў у Гайнаўскім доме культуры трэба прадаўжаць, бо такое мерапрыемства з'яўляецца крыніцай знаёмства з беларускай культурай і мясцовымі традыцыямі. Музей малой айчыны ў Студзіводах, з якім супрацоўнічаюць дзеткі і апекуны з Бельска-Падляшскага, што прэзентавалі свае сцэнкі ў ГДК, стараецца таксама захаваць на нашых вёсках абрады ў нязмененай форме.

Абрад «Сучасныя вячоркі — успаміны прошлага» ўдала паказалі вучні з калектыву «Званкі» Гайнаўскага дома культуры, што дзейнічае пад наглядам Веры Масайлы. Жыхарка Збуча Чыжоўскай гміны Варка, у ролю якой удала ўвасобілася вучаніца Юлія Корх, успамінала на сцэне пра смерць свайго брата ў пасляваенны час, які быў забіты ў 1946 годзе разам з іншымі вазакамі. Аднак удзельнікі вячорак у канцы выступу былі рады, што ў Збучы, у сямідзясятую гадавіну ад смерці вазакоў была асвячона новазбудаваная царква ў гонар Холмска-Падляшскіх мучанікаў. Публіка ўспрыняла выступ гайнаўскіх вучняў у цішыні і толькі на канец падзякавала апладысментамі.

— Калі ў Збучы, адкуль я родам, зайшла я да Варкі Ваўрашук, братавой майго бацькі, тая ўспамінала пра свайго брата, які маладым хлопцам паехаў у лес і не вярнуўся дамоў. Выкраў яго ў Белавежскай пушчы атрад «Бурага» і пагнаў у наваколле Пухалаў-Старых, дзе быў ён забіты разам з іншымі вазакамі. Расказ аб гэтай пасляваеннай гісторыі я ўспрыняла так эмацыйна, што хацела паказаць яе ў выглядзе прадстаўлення. Падрыхтавала з моладдзю абрад вячорак з аповедам пра забойства нашых людзей. Сёлета ў маім родным Збучы была асвячона царква, узведзеная ў гонар Холмска-Падляшскіх мучанікаў і мы верым, што ў іх ліку ёсць нашы забітыя вазакі. Гэта дадатковая прычына, каб запрэзентаваць трагічныя здарэнні сямідзесяцігадовай даўнасці, — сказала апякунка калектыву «Званкі» ГДК Вера Масайла. — Абрад «Сучасныя вячоркі — успаміны прошлага» паказалі вучні шостага класа Пачатковай школы № 2 у Гайнаўцы і гайнаўскі белліцэіст Яцак Дружба, з якімі я займаюся ў рамках калектыву «Званкі». Напісаўшы сцэнарый, я распавяла сваім маладым акцёрам пра смерць вазакоў, бо вучні цяпер амаль нічога не ведаюць пра іх трагедыю. Лічу, што нашы вучні адчулі трагедыю пасляваеннага часу і ўдала перадалі яе гледачам. Я рада выступам усіх маіх вучняў.

Тэатральны калектыў Школьна-прадшкольнага комплексу ў Нарве, які выступаў падчас папярэдніх абрадавых аглядаў, цяпер цікава паказаў абрад «На лаўцы цёткі Юлькі», падрыхтаваны з дапамогай настаўніцы беларускай мовы Ніны Абрамюк.

— У мінулым нашы продкі не глядзелі ў тэлевізар і не слухалі радыё. Сустрэчы на лавачках былі месцам абмену навінамі са сваёй вёскі і іншых сёл. Нашы вучні, паказваючы размовы на лавачцы, знаёмяцца з атмасферай жыцця сваіх продкаў, — сказала настаўніца Ніна Абрамюк.

Калектыў «Антракт» Бельскага дома культуры, у якім займаецца многа вучняў бельскай «тройкі», па-акцёрску выступіў з пастаноўкай «З дзённіка Веры Бусловіч» (ролю Веру ўдала іграла Інэса Гапанюк).

— Дзённік Веры Бусловіч з Ягуштова быў апублікаваны ў «Бельскім гостінцы» і я рашыла, што «Антракт» пакажа частку яго зместу. У пастаноўцы мы спасылаемся на мінулае Веры, якая была забрана на работы ў Германію і пасля прымусова была вывезена ў Савецкі Саюз. Паказваем таксама моманты, што тычацца яе хрысцін і іншых абрадаў з часоў маладосці Веры, спяваем народныя песні, — патлумачыла апякунка калектыву Альжбета Фіёнік, якая таксама выступіла на сцэне разам з вучнямі.



■ «Сучасныя вячоркі – успаміны прошлага» ў выкананні калектыву «Званкі»

З Бельска-Падляшскага прыехалі на агляд яшчэ тры групы. Калектыў Універсітэта залатога веку, якім кіруе Тамара Русачык, паказаў абрад «На вясковай лавачцы». Жанчыны, седзячы на лавачцы, абмяркоўвалі розныя справы, а пры гэтым смяяліся і сварыліся, як бывала ў мінулым на нашых вёсках. Члены бельскага хору «Васілёчкі» падзяліліся на дзве тэатральныя групы і цікава паказалі вясельныя абрады «Сваты» і «Пэрэжовіны». Арганізацыйны кіраўнік «Васілёчкаў» Ніна Бялецкая, харысты Уладзімір Весялоўскі і Барбара Андраюк сказалі, што выступаючы ў дзвюх групах больш асоб мае магчымасць паказаць перад публікай свае ўмеласці. Калектыў «Крыніца» з Беластока, якога кіраўніком з'яўляецца сакратар ГП БГКТ Валянціна Ласкевіч, удала запрэзентаваў абрад «Філіпаўскі вечар». З Залук прыехаў калектыў «Каліна», якога кіраўніком з'яўляецца Марыянна Апановіч. Цікава запрэзентаваў ён абрад «Выпраўленне ў царкву для хрышчэння». Жанчыны з Залук выступаюць з абрадамі здаўна і ахвотна прыязджаюць на абрадавыя агляды, падчас якіх могуць паказаць свае ўмеласці і павучыцца ў іншых калектываў. З Гарадка прыехалі два калектывы. «Асенні ліст» запрэзентаваў абрад «Выпраўленне да шлюбу». Яго кіраўнік Галена Бура сказала, што сцэнарый падрыхтавалі яны так, каб быў ён смешным і цікавым. Калі малады прыехаў за маладой, то многа разоў паўтаралася сцэнка, калі выводзілі яму не тую маладую, з якой ён рашыў ажаніцца, што выклікала смех публікі. «Рассяпваны Гарадок», якога дзейнасцю кіруе Анна Казбэрук, запрэзентаваў абрад «У вясковай хаце». Жанчыны з Гарадка паказалі спатканне ў хаце суседкі пасля багаслужбы на Успенне Прасвятой Багародзіцы. Прынеслі яны з сабой асвечаную кветку са збожжам, размаўлялі на розныя тэмы і спявалі народныя беларускія песні.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

# Самі сабе і не толькі

У салэцтве Новае Ляўкова Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета ёсць дзесяць кароткіх і доўгіх гмінных дарог — гравіек і пясчаных. Дзве з іх бягуць па мяжы салэцтва. Адна з іх са жвіровай маставой вядзе ад ваяводскай шашы з Навасад у Бандары і Юшкаў Груд каля дома Марыі і Яна Янеляў да Скепкаў — Вольгі і Віталя ды Галіны і Аляксандра, а таксама Эвы Дзеніс і далей за рачулкай Баброўкай да агратурыстычнай гаспадаркі «Бора-здруй» Людмілы і Барыса Казлоўскіх. Па гэтай гравійцы ездзіць шмат легкавых аўтамабіляў, грузавікоў ды трактароў. На ёй праз нейкі час ды асабліва пасля праліўнога дажджу робяцца ўхабіны і гравійку трэба раўняць.

Сёлета вышэйзгаданую гравійку раўнялі гмінным грэйдарам два разы. Солтыс і радны Новага Ляўкова папрасіў войта, каб яшчэ перад прыходам зімы прывезці сюды хаця крыху жвіру і раўняць яшчэ раз. Па раней недзе з вясны прывезеным у малой колькасці пяску — як кажуць — і след прастыў. І вось 25 лістапада г. г. прывезлі гравій і жоўты пясок і выраўнялі маставую на кіламетровым адрэзку — ад шашы да лесу Плянта. А перад гэтым узмацнілі г.зв. дэструктам (ён чорны як асфальт) пад'езд з пясчанай дарогі на асфальт. Тут была ўхабіна-раўчук і можна было паламаць рысоры.

А чаму я напісаў, што рабілі самі сабе? А каму ж? Перш-наперш сабе. І вось з самой раніцы 25 лістапада Віталь Скепка вазіў пясок тачкай і сыпаў яго ў выбоіны на дарозе. Спадар Віталь і солтыс не ведалі, калі дарогу будзе раўняць грэйдар. І не чакалі дарма трацячы час, калі прыедзе войтава «тэхніка».

Іншы прыклад. У першай палавіне лістапада нападала многа мокрага снегу. Пад яго цяжарам маладыя бярозкі, якія растуць паабапал дарогі (бяжыць яна на некалькі соцень метраў цераз лес), сагнуліся ў каблук ці як хто хоча ў дугу і немагчыма было праехаць нават нізенькай легкавушкай гэты лясны адрэзак дарогі. Тады з бензапілой выйшаў на дарогу Аляксандр Скепка і ссек некаторыя дрэўцы ды нізка навісшыя галіны над маставой. І прасека стала праязной.

Як мне, солтысу і раднаму ды і яшчэ карэспандэнту «Нівы» не напісаць і не пахваліць войта Нараўчанскай гміны Мікалая Павільча за своечасовы рамонт дарогі ды маіх аднавяскоўцаў і заадно аднаго майго былога вучня Віталя Скепку за іх грамадскую паставу, за добрыя ўчынкі для дабра ўсіх. Варта дадаць, што іменна яны, калі солтыс папрасіў, зрабілі дзве прыгожыя дошкі аб'яў. Яны зараз служаць для навалякоўцаў, якія жывуць на каленіі. Усіх дошак аб'яў у вёсцы і прысёлках пяць. На іх свежая інфармацыя з жыцця гміны.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## СПАЧУВАННІ

Шчырыя словы спачування нашаму рэдакцыйнаму сябру **Міколу Ваўранюку** і Яго сям'і з прычыны напаткаўшага іх гора **– смерці маці Марыі**.

рэдакцыя Нівы



# Дзеля вёскі

Два тыдні хваляваннеў ці хаця нехта прыйдзе. Сённа вялікі дзень, як выявілася, не толькі для яе, але і для большасці аднавяскоўцаў. У Целушкі, што ў Заблудаўскай гміне, прыязджае Хор Праваслаўнага ардынарыята Войска Польскага.

Мужчыны пераварочваюць сундукі ў пошуках гальштукаў і штаноў, жанчыны выцягваюць з шафаў святочныя спадніцы.

Запрашала кожнага асабіста, стукала да дзвярэй найстарэйшых, адзінокіх дзядуль і бабуль. Зімовай парой хутка зачыняюцца ў сваіх пустуючых хатах.

— Мабыць, цыганоў баяцца, — жартуе на два пакаленні малодшы сусед.

Нехта адразу адмаўляецца, апраўдаўшыся залішняй занятасцю. Як свет светам «у жніўні ў Целушках ўсход сонца і бабы ў агурках» — пісалі калісь у «Ніве». Дзядзька Коля маўляў «бабы ў полі, а мужыкі на Бэма». Ёсць і кароўкі, кураняткі, толькі цяпер даглядаюць іх адзінокія бабулі і дзядулі. На Бэма ўжо ніхто не збіраецца, хіба што дзеці, якія жывуць там у блёку.

— Вёска дошкамі забітая, але пакуль не заб'юць апошняй, абавязкова прыйсці, — кажа Міхал, па прафесіі гідраўлік. На мерапрыемства прыходзіць з жонкай і бутэлькай залатога напітку, які смакам напамінае дарагі каньяк.

— Хатняе, чатыры гады чакала вас, — тлумачыць, наліваючы залаты, духмяны напітак у маленькі пластмасавы кілішачак. Ад такога каньячку атрымлівае асалоду асабліва пасля цяжкай працы. Маладога,толькі што цукрам засыпанага, нават у рот не возьме. У Мішкі атрымліваецца не толькі каньяк, але і танцы. Тут вылучаецца пачуццём рытму, выдатных манераў і, што не мала важнае, партнёркі.

Гражына найбольш расхвалявалася вялікай, бляшанай місай пончыкаў. Гэта гасцінец ад бабулі Ніны. Такіх пончыкаў нідзе больш не сустрэнеш.

— А якія абаранкі пячэ! — хваліць Ромак. Прыйшоў тут з сынам Міхалам і бацькам Колем. Тры пакаленні разам. Танцуюць і Ромак, і яго бацька-ўдавец. Дзядулька выглядзеў сабе Ніну ад пончыкаў. Калі запрашае яе да танца, вочы Ніны рассвятляюцца. Маладзее на цэлых шэсцьдзясят з лішнім гадоў. І зараз пускаюцца ў раскошны, быццам тыя ж пончыкі, танец.

— Значыць, у нас вялікае свята, калі старыкі за танцы бяруцца, — заўважаюць удзельнікі застолля.

Міхала, Ромка і Колю звязвае не толькі кроў, але і целушацкя працавітасць. Наймалодшы пятнаццацігадовы Міхал аказваецца правай рукой гаспадыні мерапрыемства — солтыскі Гражыны. Звозіць торбы з каструлямі, дапамагае накрываць сталы, глядзіць за парадкам. Пасля канцэрта хору пускае на камп'ютары раней дбайна падабраныя беларускія хіты — любімыя песні яго бацькі. Найбольш ад калектыву «Ас», з лідарам якога бацька вучыўся ў адной школе, менавіта ў Целушках. Танцуюць у асноўным хлопцы і дзяўчаты, якім ужо больш за сорак гадоў. Некаторыя без перапынку, да самага канца.

— Гэта ўсё вучні маёй мамы, — кажа Гражына.

Мама, Ніна Харытанюк, глядзіць ужо толькі з поўных жыцця, непаўторных школьных здымкаў. Цяпер ніхто такіх не здымае, хаця б невядома як стараўся. Няма ўжо такіх школ, няма паважаных дзяцьмі настаўнікаў, няма паважаных настаўнікамі дзяцей. Засланяюць сабой паморшчаныя ад раптоўнай змены тэмпературы драўляныя сцэны. У кутку вісіць дзед Андрэй «з доларамі». На вяселлі, калі прапівалі, крычалі: «З доларамі без чаргі!». Вядома, не чаргаваў толькі ён. І яшчэ хмара чорных, тоўстых мух. Бзыкаюць ляніва, разбуджаныя цяплом печкі. Кафляныя сцяноўкі бухаюць жарам. Ботаў лепш да іх не прыкладаць, падэшва распусціцца. Так цёпла ў старой школе даўно не было. Ніна ад пончыкаў адчыняе акно. Вокны новыя, праўда, пластмасавыя, але ў форме згоднай з арыгіналам. Гражына выпрасіла ў гміне крыху грошай, уставіла таксама новыя драўляныя дзверы. Ёсць падтрымка з боку мясцовых, бясплатная, як за старых, добрых часоў, калі іх дзяды ставілі гэтую школу. Будынак прыгажэе з кожным годам. Ужо вострацць на яго зубы кіраўнікі некаторых няўрадавых арганізацый. Але Гражына іх сюды ніколі не ўпусціць.



«Многая лета» Гражыне



Расхваляваныя да слёз



Ніна і Коля

Сталы, асабліва ганаровых гасцей — харыстаў, угінаюцца ад колькасці свойскай вяндліны, бульбяной бабкі, пірагоў, пончыкаў, хатняга піва і гарэлкі. Артысты вельмі сур'ёзна ставяцца да выступлення — чорныя пінжакі, белыя кашулі, не шкадуюць і ўсходніх, моцных галасоў. Такіх у Польшчы не пачуеш. Спяваюць на спецыяльна для іх засцеленай дыванамі сцэне і за сталом, пад гармонік. Заслуханыя бабулькі і дзядулі хвалююцца да слёз. Іншыя падпяваюць папулярныя народныя песні. Хорам дырыгуе Славак Юрчук , які замяшчае айца Скаўронскага. Славак з 2006 года жыве ў Целушках. Хаця не ўсіх ведае асабіста, але сам ён тут добра вядомы. Часта спявае на кліросе ў царкве ў Пухлах. Канцэрт — чарговы крок у яго інтэграцыі з вёскай. Харысты дзякуюць за цёплы прыём, чакаюць чарговага запрашэння. На завяршэнне спяваюць «Многая лета» гаспадыні Гражыне. Як сама пасля прызналася, такога мнагалецця не пачула нават на сваім вяселлі. Па хатах разыходзяцца пасля поўначы. З самай раніцы абавязковы абыход вёскі. Гражына, Ромак і яго сын Міхал зачапляюць знятыя ўначы брамкі. Атмасфера быццам на Гагатуху, толькі дарожак попелам не сыпалі. Відаць, не было каму, хіба што ўдаўцам і ўдовам.

І тут жывуць людзі, а сярод іх даследчыца беларускай культуры, працаўніца Універсітэта ў Беластоку Гражына Харытанюк-Міхей.

— Чалавек у розных месцах пабываў і вырашыў вярнуцца, — прызнаецца.

Умовы для гэтага выдатныя: дом дзядоў, прастора, свае людзі. Выходзіць да іх, асабліва адзінокіх, размаўляе, здабывае давер, змагаецца за дарогі, вулічнае асвятленне, будынак старой школы.

— Найважнейшая тут сустрэча, размова з носьбітамі гісторыі і культуры. Нават кніжкі мне прыносяць, — паказвае дзве з аўтографамі Сакрата Яновіча, памяткі ад літаратурнай сустрэчы ў Целушках у 1976 годзе.

Калісь вялікая вёска засталася такой па сёння. Колькасць хат аднолькавая, толькі людзей стала менш. Праўду кажучы, хат прыбывае. Акцёры, мастакі, паспяховыя прадпрымальнікі, уцекачы ад жонак. Летам шмат тут турыстаў, пераважна з заходняй Польшчы. Ставяць сабе хаткі ў лесе, над берагам Нарвы. Дзед Гражыны даўно ўжо прадбачыў, што вырасце там горад, быццам вершалінская царква. Шмат чаго яшчэ ён напрарочыў. Усё збылося. Гражына спадзяецца што ўсё-такі і нашы вернуцца, калі ўжо адыдуць на пенсію.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

# Успаміны з Ізраіля

**Яўрэйскі кагал у Орлі ўзнік на пераломе XVI і XVII стагоддзяў. У 1921 годзе ў ліку 1518 жыхароў Орлі было 1167 яўрэяў, а ў 1929 годзе было 2200 яўрэяў з агульнага ліку 3000 мяшчан. Пасля 17 верасня 1939 года ў Орлі пражывала 1450 яўрэяў, а ў 1941 годзе — дзве тысячы. У час нямецкай акупацыі яўрэйскае насельніцтва было спачатку зачынена ў мясцовым гета, а пазней — 3 лістапада 1943 года — пераселена ў бельскае гета, затым (паводле іншых сведак — адразу з Орлі) перавезена ў лагер смерці ў Трэблінцы. Выжылі лічаныя, парадаксальна тыя, якіх саветы вывезлі раней у Сібір ці прызвалі на фінскі фронт. Былі гэта сямейнікі ўладальнікаў кафлярні Вайштынаў ды сямейнікі пекара Ізбуцкага.**

Сем гадоў таму арлянскі сельгасгурток выдаў альбом „Орля запісаная карцінай”, якога я быў сарэдактарам. Годам пазней аўтар альбома і каардынатар праектаў Марк Хмялеўскі знайшоў у Ізраілі Сару Аўні з роду Вайштын, 84-гадовую, апошнюю жывую арлянскую яўрэйку. Саветы саслалі Вайштынаў на поўнач Казахстана. Марк Хмялеўскі паляцеў у Ізраіль, каб сустрэцца з ёю асабіста і сабраць ейныя ўспаміны. Вось запіс яго ўражанняў ад падрыхтоўкі да выезду і самога падарожжа.

Быў 2009 год, чалавек не ўсё ўсведамляў, усё здавалася простым, што хопіць некалькі злотаў і свет адкрыецца перад табою. Атрымалі дзесяць тысяч злотаў, а выданне альбома каштавала 35 тысяч. Пачалося з выставы; дагэтуль такой выставы ніхто не зладзіў і не зладзіць. І чалавек пайшоў за ўдарам, выдавец пагасіў крэдыт, грошы вярнулі.

Па інтэрнэце пазнаёміўся з Данай Ротшыльд з Ізраіля, напісаў ёй, што павінна там быць яўрэйка з Орлі, яна яе знайшла, паразмаўляла, дала мне нумар яе тэлефона. Пазваніў я Сары Вайштын і паведаміў, што выдалі альбом, у якім і яна згадваецца. Падала свой адрас, я ёй альбом паслаў, мо з паўгода ішла пасылка. Сталі мы размаўляць па тэлефоне, размовы былі доўгія, ёй было ўжо пад дзевяноста гадоў. Яна мне расказвала, я стаў уяўляць, як тое ўсё адбывалася... Рашыў я наведаць спадарыню Сару асабіста, каб запісаць яе аповеды; яна згадзілася.

Быў я тады ў Школе лідараў Польска-амерыканскага фонду свабоды, акурат здымалі фільм пра фонд. Здымалі і мяне і там я пазнаёміўся з адным маладым чалавекам. Трэба мне было здабыць сродкі на падарожжа. Скантактаваўся я з Пётрам Шчапанскім, старшынёй Фонду ўспамагання вёскі. Фонд прызначыў мне на выезд пяць тысяч злотаў. Няёмка, але пачатак ёсць, ёсць за што зачапіцца. На пралёт з Польшчы ў Ізраіль гэтых грошай не хапіла б, але лятаючы цераз Прагу за два білеты ў абедзве стораны хапіла заплаціць тры з паловай тысячы злотаў. Такі бізнес, што складана зразумець.

Сябра Радэк Гэмбіч распрацаваў кожны дзень сямідзённай пабыўкі — курсы аўтобусаў, адрасы... Аказваецца, што седзячы ў Польшчы можна запланаваць візіт у Ізраіль з гадзіннай дакладнасцю. Даў ён мне такую папку і сказаў, што там усё запісана крок за крокам, на выпадак, калі б яго не прапусцілі; захоўваю гэтую папку на памяць. Узялі мы на пракат прафесійную камеру. Паехалі сустракацца са спадарыняй Сарай, дадатковыя выдаткі фінансуем за ўласныя сродкі. Каб было танней, начавалі ў людзей — такі там гарадскі агратурызм.

Паляцелі цераз Чэхію, у Ізраілі селі ў цягнік у Хайфу, дзе жыла спадарыня Сара, раскватараваліся, скантактаваліся з ёю. Кватаравалі ў амерыканскай яўрэйкі, якая ў 1970-х гадах перасялілася ў Ізраіль; вельмі сімпатычная жанчына, паказала нам фільм пра Ізраіль на рускай мове, які вельмі добра азнаёміў нас з краінай.

Дамовіліся сустрэцца ў рэстаране, там прыгожыя агародчыкі, задбаныя кветкі; яны амаль з пустыні стварылі рай. Сустрэчу сфільмавалі, яна ёсць на юцюбе. Спадарыня Сара прыехала са сваім найстарэйшым сынам Ёселем. У мяне былі сувеніры, у тым ліку і прамацыйныя матэрыялы пра Беласток, бо Сара жыла калісь і ў Беластоку. Ад сябе меў я крыху рукадзелля. Пачалі размаўляць, шчыра. Сын заўважыў, што лепш памяняць месца. Запрасіла нас у госці дачка спадарыні Сары, якая замужам за румынскім яўрэем. Яны вельмі ганарацца польскім паходжаннем, бо польскі яўрэй мае там найвышэйшы ранг. Яны нас прымалі з паловы дня да ночы, яда была пераважна з нашай кулінарнай культуры. Спадарыня Сара прадставіла нам сваю сям'ю; наймалодшы сын, які працуе юрыстам, не прыехаў. Яны ўсе валодаюць англійскай мовай і сябра Радэк перакладаў мне. Спадарыня Сара валодае прыгожай даўняй польскай мовай ды рускай, бо ейная маці толькі па-руску размаўляла. А з дзяцьмі, унукамі і праўнукамі трэба было дагаворвацца па-англійску.




■ Фрагмент Мемарыяла ў Трэблінцы

Фота Аляксандра Вярбіцкага

Першы дзень быў азнаямляльны, былі падарункі; добра, што я быў прыгатаваны. На другі дзень дамовіліся сустрэцца ў кватэры спадарыні Сары на васямнаццатым паверсе хмарачоса, на размову, на ўспаміны. Пры ўваходзе ў кватэру кідаецца ў вочы кафля-памятка Вайштына з арлянскай кафлярні. На сценах старыя фатаграфіі, на некаторых даўнія жыхары Орлі. На размовах і ўспамінах мы правялі ў спадарыні Сары два дні.

Пабыўку лічу ўдалай, хаця не абышлося без злараднасці, зайздрасці. Два дні перад нашым вылетам у Ізраіль нехта з Орлі патэлефанаваў і нагаварыў усялякай усялячыны былой жыхарцы Бельска. Спадарыня Сара мне пра гэта не сказала, каб мяне не нерваваць. Уся сям'я прыняла мяне ад шчырага сэрца.

Чарговыя дні мы праводзілі самі, знаёмячыся з гісторыяй Ізраіля. Наведалі мы крэпасць Масада, якую яўрэі баранілі некалькі гадоў перад рымлянамі. Былі над Мёртвым морам. У Іерусаліме кватаравалі мы ў французскіх манашак. Глядзелі, як яўрэі святкуюць пачатак шабасу, танцуюць тысячы мужчын. Былі пад Сцяной плачу; сябра быў у кароткіх нагавіцах, то загадалі яму прыкрыць калені ручніком.

Ці многа там вайсковых? Вайсковыя там усюды, што пяцьдзясят метраў патруль, бо ў іх увесь час вайна, усюды брамкі, кантролі; трэба прывыкнуць. Там людзі з усмешкамі, а гэта ўражвае.

Ці ўсе яўрэі з пэйсамі? Не, гэта фракцыя артадоксаў і пра іх самі яўрэі кажуць, што гэта лодары, якія нічога не робяць, толькі плодзяць дзяцей і захопліваюць усю ідэалогію, дзяржава іх утрымоўвае, а яны толькі плодзяцца і моляцца. Ёсць кварталы, дзе яны жывуць, на працу не ходзяць, жывуць з сацыяльнай дапамогі.

Сустрэўся з інтэрнэтнай сяброўкай Данай Ротшыльд, польскай яўрэйкай, якая заявіла ахвоту паказаць мне праўду аб палесцінцах. Цывілізацыя, гэта галоўным чынам Ізраіль, а рэшта гэта хаос і дзеля парадку мусяць быць яўрэі і дзяржава. Палесцінцы, якія хочуць працаваць, жывуць разам. Маюць сваю аўтаномію, назвы на вуліцах траякія ці чвараякія. У іхніх мястэчках ніхто не прыбірае, сядзяць і чакаюць манны з неба. Той Флот свабоды, які ізраільцяне запынілі, вязе ім ваду ці цэмент — усё з Еўропы, а яны маюць гэта на месцы. Калі ізраільцяне адступілі ім месца ў Сектары Газы, дзе быў рай, то палесцінцы што зрабілі? Узарвалі ўсе студні ды ўстаноўку апраснення марской вады. Яны так робяць, каб іх цэлы свет карміў — такое маё меркаванне. Калі не будуць дабівацца міру, то нічога не здабудуць.

У Іерусаліме бачылі прыгожы будынак прадшколля, але абкладзены бетоннымі блокамі. Чаму? Бо насупраць ёсць вёска, з якой снайперы страляюць да дзяцей. Вёска хрысціянская, але жыхароў тэрарызуюць баевікі і страляюць з іхніх дамоў; а свет таго не паказвае.

Ізраіль гэта добра сарганізаваная дзяржава, а калі б там не было яўрэяў, то быў бы хаос. Чаму ўсе баяцца Ізраіля? Бо яны дзейнічаюць коратка і ясна, а не так як Еўрасаюз, яны адразу вырываюць пустазелле. Разумею іх і захапляюся.

Запісаў Міхал МІНЦЭВІЧ

## Адзначылі юбілей

У суботу, 26 лістапада, у «Сподках» Ваяводскага асяродка культуры і анімацыі ў Беластоку адзначаўся шасцідзесяцігадовы юбілей «Нівы». Праграмная рада штотыднёвіка на святкаванні запрасіла кіраўнікоў ваяводскага і павятовых самаўрадаў, Галоўнага праўлення БГКТ, карэспандэнтаў і даўнейшых супрацоўнікаў. Такім запрашэннем і я пакарыстаўся. Паколькі лічуся адным з нешматлікіх супрацоўнікаў даўнейшага авангарда, лічу сваім абавязкам падзяліцца ўражаннямі як саўдзельнік мерапрыемства. Прызнаюся шчыра, што да апошняга дня я не быў пэўны, ці змагу падацца ў суботу ў Беласток. Здароўе падводзіла — ногі не слухаліся, не краталіся з месца. Але дочкі ды прыяцель Сцяпан Копа настойвалі, казалі: «Гэта можа быць апошні юбілей і нагода да сустрэчы з ніўскімі сябрамі. Варта пакарыстацца запрашэннем». Дачка Ірэна паабяцала, што падвязе на аўтамабілі і заапякуецца ў падарожжы. Так і было.

Пад «Сподкі» па вуліцы св. Роха 14 заехалі пяць мінут пасля дванаццатай. Ужо на калідоры прывіталі нас кіраўнік рэдакцыйнай канцылярыі Галіна Рамашка ды бухгалтар Марыя Паўлючук. Сардэчнае было прывітанне, паколькі ад двух гадоў не сустракаліся ў рэдакцыі, як даўней бывала. Чарговае прывітанне, таксама сімпатычнае з сябрамі з беларускай рэдакцыі Беластоцкага тэлебачання. З ходу ўзялі інтэрв'ю — для мяне дэбют...

Афіцыйная частка пачалася. З дакладам выступіў галоўны рэдактар Яўген Вапа. Прысеў я ззаду побач гукааператара, які наглядаў за электраўстаноўкай і праектарам. З боку прыкмеціў сяброўскія кіўкі галавою на прывітанне Юры Каліны, праф. Яўгена Міpановіча, Міхася Андрасюка. Неўзабаве падышоў Сцяпан Копа, задушэўны прыяцель, вядомы музыкант. Чаргова выступалі Віталь Луба, Яўген Міpановіч, Лена Глагоўская, Алег Латышонак, Аляксандр Вярбіцкі, Міра Лукша, Ганна Кандрацюк. Пасля былі віншаванні і памятныя падарункі. Віншавальныя лісты ад імя Маршалкоўскай управы з букетам кветак перадалі віцэ-маршалак Мацей Жыўна з дырэктарам дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны Маршалкоўскай управы Анатолем Вапам. Быў віншавальны ліст ад Падляшскага ваяводы. Букет кветак ад ГП БГКТ уручыў Васіль Сегень. Ад Гайнаўскага павета «Ніву» павіншаваў староста Міраслаў Раманюк. У мастацкай частцы выступілі Люба Гаўрылюк з дачкою Алай, вучні Бельскага белліцея і Алег Кабзар. Госці перайшлі ў суседнюю залу на святочны банкет. Паколькі я не быў у змозе заняцца самаабслугоўваннем, з дапамогай прыйшлі мне сардэчныя ніўскія сябры Віталь Луба і Яўген Вапа. Напераменшы паднасілі паасобныя стравы. Да кампаніі далучылася Лена Глагоўская. Гэта была сапраўдная задушэўная сустрэча і абмен навінкамі. За ніўскіх карэспандэнтаў перакулілі па дзве чаркі чырвонага віна. Затым дамовіліся, як Усявышні дазволіць, спаткацца ў студзені ў «Ніве» на традыцыйнай вадохрышчанскай імпрэзе з нагоды майго дня нараджэння. Не менш сімпатычным аказалася спажыванне пачастунку ў кампаніі спадарыні Марыі Лубы, жонкі Віталя, Яўгеніі Палоцкай — ніўскай пенсіянеркі, Лены Тапалянскай з Трасянкі ды Жэні Мартынюк з Бельска-Падляшскага. Паколькі насталі вячэрнія поцемкі, а ў Чаромху чакала нас больш чым гадзіннае падарожжа, я пачаў развітвацца з кампаньёнамі. Пры выхадзе спаткаў яшчэ Яніну Чэрнякевіч з Верай Валкавыцкай, якія размаўлялі з Мікалаем Панфілюком. Сардэчнае прывітанне... У так кароткім прамежку часу нельга было пры пачастунку паразмаўляць з усімі ніўскімі калегамі, ды не было магчымасці разабрацца ў шматлікай кампаніі. Фактам было тое, што шасцідзесяцігадовыя ўгодкі «Нівы» і задушэўныя кампаньёны застануцца па апошнія дні ў маёй памяці.

Уладзімір СІДАРУК


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

Зорка
для дзяцей і моладзі


# Прыгожы юбілей і верныя сябры!


Оля Зінкевіч, Ганна Кандрацюк, Максім Фіёнік, Іван Карсунскі, Уля Шубзда


Ганя Мордань, Уля Шубзда, Яніна Чэрнякевіч, Яўген Вапа, Вера Валкавыцкая

— Праз момант выступяць дзяўчаты са «Спадчыны» і гэта будзе сучасны, прыгожы воблік «Нівы», — сказаў Андрэй Сцепанюк, дырэктар Бельскага беліцэя.

Ці можа быць лепшы падарунак?! Дзявочы музычны гурт, які працуе пад кірункам Іаанны Хількевіч, свае чароўныя песні падараваў публіцы, якая з цэлай краіны з'ехалася на юбілей «Нівы». Не менш прыгожа і дастойна прадстаўлялі сябе і свае школы аўтары «Зоркі». Усе нашы хлопцы з'явіліся ў касцюмах, як на вяселле. Разам прыехалі настаўнікі і дырэктары школ, таму ў гэтым месцы дзякуем усім за прыбыццё, віншаванні, кветкі.

Не менш прыемнае было выступленне Тамаша Сулімы, старшыні Саюза беларускіх журналістаў. Тамаш, ад імя ўсіх сяброў Сустрэч «Зоркі», падзякаваў за супольна праведзеныя гады і прыручэнне да беларускага свету. На юбілеі пабываў таксама найпершы сустрэчнік і непараўнальны аўтар зорчыных фельетонаў Міхась Сцепанюк, сёння журналіст Радыё Беласток. Дапаўненнем цудоўных успамінаў было выступленне Алега Кабзара, у прыватнасці сустрачанскага мастака і музыканта, апекуна культавага кабарэ «Куль».



Юрка Хмялеўскі, Тамаш Суліма, праф. Лена Глагоўская, Яўген Вапа

Вельмі прыемным сюрпрызам былі таксама лісты і дописы ад нашых аўтараў: Клаўдыі Галінскай і Наталлі Васько. Іншыя, як Віка Кардзюкевіч, Габрыся Торка, Іван Карсунскі, Крысцыян Паскробка, Максім Фіёнік, Оля Зінкевіч, Юлія Бяганская асабіста прыбылі на юбілей...

У час святкавання многія чытачы падыходзілі пагаварыць пра «Зорку». Атрымалася ўражанне, што ў нас «цэлы свет» паклоннікаў і сяброў, якія паўтаралі стары анекдот, што «Ніва» гэта дадатак да «Зоркі»! На юбілеі адзначылі прысутнасць рэдактар Яніны Чарнякевіч, якая цягам трыццаці гадоў вяла нашу старонку, а таксама рэдактар Веры Валкавыцкай, якая шэсцьдзясят гадоў таму прыдумала і ажыццявіла з дапамогай настаўнікаў ідэю «Зоркі».

Мы таксама шчыра дзякуем усім настаўнікам за падтрымку і дапамогу ў распаўсюджванні нашай газеты. Адбылася рэч немагчымая! Вось у часы, калі засталіся мы без колеру і паменшылася колькасць навучэнцаў беларускай мовы, на «Зорку» падпісалася столькі дзяцей і моладзі як у мінулым годзе. Ці можа быць прыгажэйшы і больш годны падарунак ад сяброў! Шчыра вам дзякуем!

**Ганна КАНДРАЦЮК**

## Загадкі з роднай хаткі

**УВАГА КОНКУРС! № 49-16**

Мышак ловіць,
ды не кіска ён.
Лісты носіць,
Ды не паштальён.
Каб лісе
Не трапіць на зубок,
У калючы
Скруціцца клубок.
В....

(У. Мацвеенка)

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 11 снежня 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на загадку № 46: бабёр. Узнагароды, наклейкі, выйгралі Іаанна Нікіцюк, Міхал Вардэцкі з Бельска-Падляшскага, Юстына Астапковіч з КШ № 1 у Ганаўцы, Тамаш Ваўжэнюк, Міхал Тапалянскі з Нарвы. Віншуем!

# Кемлівы хлопчык

*(казкі народаў Каўказа)*

Жылі два браты. Адзін жыў у Ніжнім Чэгеме, другі ў Верхнім Чэгеме. Адправіўся аднойчы малодшы брат у госці да старэйшага брата. Узяў асла і павязаў яму на спіну торбу аўса. Прыехаў у двор, прывязаў жывёлу да тыну, а сам зайшоў у саклю. Доўга абмяркоўвалі тое-сёе браты, ды ў канцы малодшы брат кажа:

— Пайду падсыплю аўса аслу.

Выйшаў ён з хаты, няма асла. Што рабіць? Выйшлі браты шукаць. Абышлі цэлы пасёлак, не знайшлі асла. А недалёка знаходзілася вялікая паляна, дзе расла сакавітая трава. Падумалі браты, што асёл там пасвіцца. Ідуць яны дарогай і сустракаюць хлопчыка.

— Скажы браток, не бачыў ты асла?

— А як ён выглядае? Можа гэта той, які сляпы на левае вока, кульгавы на правую заднюю нагу і мае прывязаны мяшок аўса на спіне?

— Гэта і будзе наш асёл. Дзе ж ты яго бачыў?

— Я не бачыў вашага асла, — адказаў хлопчык.

Здзівіліся баты:

— Дык адкуль ведаеш усё пра нашага асла?

— Я ніколі не бачыў вашага асла, — адказаў хлопчык і пайшоў сваёй дарогай.

Сталі браты і гадаюць: адкуль гэты малы ведае ўсё пра іх асла ды чаму ён запіраецца, што не бачыў жывёлы на вочы. У канцы дайшлі да высновы:

— Мабыць, ён дзесь схаваў асла.

Дагналі яны дзіця і павялі да суддзі, каб той правёў следства і сказаў праўду. Суддзя паглядзеў на хлопчыка і кажа:

— Ну, прызнавайся, дзе ты схаваў асла гэтых дзядзькоў!

— Пан суддзя, я не бачыў на вочы гэтага асла.

— Тады адкуль ведаеш яго прыкметы?

— Ішоў я дарогай, — пачаў хлопчык, — пабачыў сляды асліных капыт. След правай нагі меншы, а крок карацейшы чым у апошніх трох ног. Тут любы дурань зразумее, што асёл кульгавы на заднюю правую нагу. Далей я заўважыў, што з правай староны дарогі трава з'едзена, а з левай не кранута. Калі б асёл бачыў траву па левым баку, ён бы яе з'еў. Значыць, ён сляпы на левае вока. Іду я далей і бачу: на галінках дрэва пачэпленыя ніткі ад мяшэчка, а пад дрэвам рассыпаны авёс. Відаць, асёл спыніўся ля дрэва, пачухаўся, мяшок разарваўся і авёс рассыпаўся.

Выслухаў суддзя хлопчыка і падтакнуў галавой. А пасля, сказаў братам:

— Гэты хлопчык ніколі не бачыў вашага асла, аднак калі вы пачняце аналізаваць дэталі так як гэтае дзіця, дык вельмі хутка знойдзеце вашу згубу.

**(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)**



Урок беларускай мовы ў Міхалове

# Вершы Віктара Шведа



## Навошта на свеце мухі?

– Мілы татка, паслухай, —
Азваўся ў ложку сын Якаў. —
Навошта на свеце мухі?
Карысці няма з іх ніякай.

– Мухі патрэбныя, сынку,
Такім як ты абібокам,
Спаць не даюць безупынку
У дзянёк працы, урокаў.

## Не пазнаў каня

Устаўшы з ложка снедае
Збянтэжаны Лявонь.
– Настаўнік наш не ведае,
Як выглядае конь.

На ўроку рысавання
Мяне ён запытаў:
–Адкажы на пытанне –
Што ты нарысаваў?

*Замкі і палацы Беларусі*

# ЗАМАК У БЫХАВЕ

Каб даехаць з Беластока на замак у Быхаў, трэба адолець 569 кіламетраў. Калісь гэтая адлегласць здавалася «карацейшай». Гэта таму, што ў часы ВКЛ між нашымі землямі панавалі ажыўленыя кантакты. Вялікую заслугу ў набліжэнні адыграў звязаны з цяперашнім Падляшшам род Хадкевічаў.

Менавіта, па загадзе Яна Караля Хадкевіча ў 1590-1616 гадах сталі ўзводзіць замак у Быхаве. Гэта быў самы магутны фарпост на ўсходзе Рэчы Паспалітай. Замак узведзены на высокім беразе Дняпра, ахінуты 800-метровым валам з бастыёнамі і равамі. Наступныя гаспадары, Сапегі, спалучылі крэпасць з сядзібай. Замак быў мадэрнізаваны, у ім спалучаліся архітэктурныя рысы рэнесансу і барока, прытым будоўля славілася раскошнай аркаднай галерэяй. Апрача ваенных задач замак выконваў ролю культурнага і мастацкага цэнтра. На жаль, як большасць беларускіх архітэктурных цудаў, быў разбураны ў часы Паўночнай вайны. Хоць у XIX стагоддзі замак



быў перабудаваны, яго жыццё спынілася ў наступным стагоддзі. Сёння ад славутай крэпасці засталіся адзін корпус, абарончыя муры, фрагмент казармаў і вуглавая вежа.

У Польшчы месца звязваюць з перамогай гетмана Стэфана Чарнецкага, які бравурна ў 1660-1661 гадах адбіў крэпасць з рук Маскоўшчыны.

**Зорка**

# Польска-беларуская крыжаванка № 49-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 46:**

Імгла, сын, Мі, рак, яр, блог, лісце, лістапад, клас, Ас, на, стан, тры, кола. Пакет, імя, мір, ласы, ліст, ар, стан, абцас, склеп, анёл, нагода.

Узнагароды, стылусы для смартфонаў (touch pen), выйгралі **Дам'ян Карнілюк**, **Наталля Маркевіч** з Бельска-Падляшскага, **Тымэк Петручук**, **Томэк Ваўранюк** з Нарвы, **Якуб Васільчук**, **Вікторыя Кондрат** з Нараўкі, **Магда Люнда**, **Юстына Астапчук** з КШ № 1 у Гайнаўцы, **Зузанна Мішчук**, **Віялета Смалюк** з Арэшкава. Віншуем!

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Lira | | Jał | Dziadek | | | Gil |
| Klasa / Afisz | | Skit / Wigilia, Boże Narodzenie | | | | | | | Do / i.. | |
| | | Ar / Przedział w pociągu | | | Słuch | Wymiana | | On | | |
| | | | | Śmiech / Sto | | | | | | |
| | Fakt | | Ślad | | | | | | | |
| | | | Płot | | | | Jaki | | | |
| | Epoka | | | | | | Jan | | | |

# СМІ з незалежнага беларускага пункту гледжання



# АКНО ДЛЯ БЕЛАРУСКАГА ЧЫТАЧА

■ Злева: Аляксей Дзікавіцкі, Яўген Вапа, Андрэй Пісальнік, Агнешка Рамашэўская-Гузы, Наталля Радзіна, Войцех Кананчук, Міхал Янчук, Віктар Валадашчук

Дыягназ сітуацыі незалежнай журналістыкі ў Беларусі і разважанні аб ролі польскай дапамогі ў развіцці сродкаў масавай інфармацыі ў гэтай краіне абмяркоўваліся ў ходзе дыскусіі 18 лістапада ў актавай зале факультэта педагогікі і псіхалогіі ва Універсітэце ў Беластоку. Арганізатарамі круглага стала «Польскі ўнёсак у развіццё свабодных беларускіх медыяў" сталі Рэгіянальны асяродак міжнародных дэбатаў у Беластоку, Асацыяцыя па пытаннях адукацыі і дыялогу «Fontis et Futura» і Падляшскі аддзел Асацыяцыі «Wspólnota Polska». Публічная дыскусія была падзелена на два асноўныя напрамкі: дыягназ сітуацыі незалежнай журналістыкі ў Беларусі, у тым ліку спецыфіка становішча СМІ ў гэтай краіне, неабходнасць незалежнай журналістыкі, пагрозы, выклікі і шанцы якія стаяць там перад незалежнымі сродкамі масавай інфармацыі, а таксама одум пра ролю польскай дапамогі ў развіццё сродкаў масавай інфармацыі ў Беларусі. Абмяркоўвалася роля польскай дапамогі ў развіцці сродкаў масавай інфармацыі ў Беларусі: тып і аб'ём польскай дапамогі, наступствы польскай падтрымкі для незалежнай журналістыкі ў Беларусі, ацэнка эфектыўнасці польскай падтрымкі (плюсы і мінусы дапаможных рашэнняў), разглядаліся напрамкі памкненняў незалежных СМІ ў Беларусі — чаканні атрымальнікаў і журналісцкага асяроддзя ды які ёсць сэнс падтрымкі палітыкі свабодных сродкаў масавай інфармацыі. Свае погляды прадставілі Наталля Радзіна, Міхал Янчук, Віктар Валадашчук, Аляксей Дзікавіцкі, Яўген Вапа, Войцех Кананчук і Андрэй Пісальнік.

Мадэравала дыскусію **Агнешка Рамашэўская-Гузы**, заснавальніца і дырэктарка тэлекампаніі «Белсат», былая міжнародная рэпарцёрка ў Беларусі і Украіне, лаўрэатка прэміі імя Ежы Гедройца «за працу дзеля польскай дзяржаўнай рацыі», лаўрэатка «Прэміі свабоды слова імя І. Любчанкі». Удзельнік дыскусіі **Аляксей Дзікавіцкі** (ТБ «Белсат») прымаў удзел у мерапрыемствах, звязаных з журналісцкай дзейнасцю і абаронай правоў чалавека. Пісаў у беларускія незалежныя газеты, а з 2001 г. на Радыё Свабода, супрацоўнічаў пры стварэнні «Белсата», кіруе рэдакцыяй інфармацыі гэтага тэлеканала.

**Яўген Вапа** (старшыня Беларускага Радыё Рацыя, першы старшыня Беларускага аб'яднання студэнтаў), адзін з заснавальнікаў і праграмны дырэктар Цэнтра грамадзянскай адукацыі Польшча-Беларусь, са студзеня 2004 г. галоўны рэдактар «Нівы». Заснавальнік Беларускага Радыё Рацыя. **Андрэй Пісальнік** («Głos znad Niemna») працаваў між інш. у гродзенскіх газетах, быў галоўным рэдактарам штотыднёвіка «Głos znad Niemna», цяпер «Głos znad Niemna na uchodźstwie», зараз кіраўнік рэдакцыйнага аддзела Галоўнай рады Саюза палякаў і галоўны рэдактар партала «Znadniemna.pl». **Наталля Радзіна** (партал «charter97.org») — журналістка звязаная з незалежнымі СМІ. Намінавана арганізацыяй па правах чалавека «Index on Censorship» да ўзнагароды «Свабода слова» ў катэгорыі «Барацьба супраць рэпрэсій і за дзейнасць у мэтах змянення палітычнай сітуацыі», пераможца прэміі за свабоду прэсы Міжнароднага камітэта па абароне журналістаў.

**Войцех Кананчук** (Цэнтр усходніх даследаванняў) — аналітык Цэнтра ўсходніх даследаванняў, у мінулым каардынатар міжнародных праектаў у Фондзе Баторыя. Пастаянна супрацоўнічае з «Новай Усходняй Еўропай» і «Тыднікам паўшэхным». **Віктар Валадашчук** («Газета Слонімская») працаваў у якасці рэпарцёра ў газеце «Свабода», выдавец і галоўны рэдактар «Газеты Слонімскай». **Міхал Янчук** (Беларуская асацыяцыя журналістаў) — журналіст замежнага аддзела Польскага прэсавага агенцтва, замежных праграм Польскага радыё і ТБ «Белсат», віцэ-старшыня БАЖ і выканаўчы дырэктар гэтай арганізацыі, член фінансавай камісіі Еўрапейскай федэрацыі журналістаў (EFJ). Гаворка ішла найперш пра Беларускае Радыё Рацыя, тэлеканал „Белсат", Еўрапейскае радыё для Беларусі і сайт charter97.org ды СМІ выдаваныя непрызнаным уладамі Саюзам палякаў у Беларусі, якія без падтрымкі не змаглі б існаваць.

**Агнешка Рамашэўская:** — Польшча ў найбольшай ступені падтрымала незалежныя СМІ і іх дзейнасць. Чаму Польшча падтрымлівае іх, каму гэта патрэбнае ў Беларусі, як яны дзейнічаюць? Які інтарэс мае Польшча ў тым, каб падтрымліваць беларускія незалежныя СМІ? Ці гэтая дзейнасць мае працягвацца далей, ці мае быць нейкім чынам мадыфікаванай?

Дыскутанты прадставілі дзейнасць сваіх арганізацый у гэтым плане, пачынаючы ад мясцовай незалежнай газеты. Уладзімір Валадашчук прадставіў «Газету Слонімскую», якая выдаецца амаль 20 гадоў і яе турботы з захаваннем незалежнасці, сядзібы рэдакцыі і распаўсюду. Быў час, калі яна выходзіла 12-тысячным тыражом (цяпер 3,5 тысячы). Газета мае таксама свой вэб-сайт ды прабуе ўтрымацца з невялікай рэкламы.

**Міхал Янчук** шмат гадоў супрацоўнічаў з Белсатам. Расказаў пра дзейнасць БАЖ, якая ўзнікла 20 гадоў таму, у адказ на ўзмацненне рэпрэсій лукашэнкаўскага лагера. Зараз налічвае каля 1200 членаў, пражываючых у Беларусі, у большасці фрылансераў, практычна ў Беларусі вылучаных з-пад закону, журналістаў незалежных выданняў. — БАЖ гэта апошняя лінія абароны журналістаў ад рэпрэсій. Шмат рэпрэсій чакае журналістаў незалежных СМІ, асабліва тых, хто не заняты на штаце, якія працуюць для незарэгістраваных беларускіх СМІ, для замежных СМІ, для Радыё Рацыя, Белсата. Практычна не маюць ніякага механізму дайсці да інфармацыі, іх праца вельмі цяжкая. Белсат, які дзейнічае ўжо 8 гадоў, не мае ні адной журналісцкай акрэдытацыі. Белсат тры разы звяртаўся да беларускіх улад па акрэдытаванне сваіх прадстаўнікоў, але безвынікова. Цяпер беларускія ўлады прымянілі палавінны манеўр — акрэдытуюць некалькі беларускіх журналістаў як прадстаўнікоў Польскага тэлебачання, але тыя не могуць ужываць лагатыпу Белсата, які адабраны Белсату судом і дзейнасць Белсата ў Беларусі вельмі моцна абмежаваная. Спадзяюся, што дыялог, які пачаўся з беларускімі ўладамі, будзе мець апрача эканамічнага складніка таксама палітычны і правы журналістаў у Беларусі будуць захоўваца.

**Войцех Кананчук** распавёў пра аналітычны цэнтр Усходніх даследаванняў, якога мэтай з'яўляецца маніляраванне і аналізаванне шырока ўспрыманых палітычных, гаспадарчых і грамадскіх працэсаў, якія адбываюцца за ўсходняй мяжой: — Нашай мэтай з'яўляецца прыкмячанне працэсаў, тэндэнцый у гэтых краінах і інфармаванне аб іх нашых улад — МЗС, парламента, прэзідэнта, прэм'ера і звычайных чытачоў. Сістэмна даследуем беларускую дзяржаву, яе палітыку (якой папраўдзе няма), гаспадарку і грамадскія працэсы. Даследавалі мы як змянялася расійская палітыка ў адносінах да Беларусі пасля ўкраінскай рэвалюцыі і што з гэтага вынікае. У нашым даследаванні ёсць раздзел пра ўплыў расійскіх СМІ на Беларусь, якія распаўсюджваюць ідэі «рускага міра».

**Наталля Радзіна**, кіраўнік сайта Хартыя'97 — самага буйнога незалежнага беларускага партала: Сёння маем каля 200 тысяч унікальных наведвальнікаў штодзень і каля двух мільёнаў штомесяц. Гэта адзін з самых першых і старэйшых незалежных парталаў, да 2010 года працавалі ў Беларусі. У год калі ў Беларусі адбываліся прэзідэнцкія выбары, супраць сайта Хартыя 97 былі ўжытыя масавыя рэпрэсіі, быў забіты заснавальнік сайта Алег Бебенін, супраць мяне былі ўзбуджаны чатыры крымінальныя справы, офіс быў падвергнуты двойчы нападам з боку спецслужбаў, і скончылася тым, што ў дзень прэзідэнцкіх выбараў у снежні 2010 г. я была арыштавана. Частка супрацоўнікаў Хартыі змагла збегчы за мяжу, і пакуль я сядзела ў турме, яны працягвалі працу. Праз два месяцы ў СІЗО КДБ я была вызвалена, пад падпіску аб нявыездзе, два месяцы яшчэ жыла пад пільным наглядам з боку міліцыі і КДБ, пасля мне ўдалося збегчы з Беларусі без пашпарта праз Расію. Звярнулася ў Маскве да амбасады ЗША і ААН, і там мне дапамаглі — я магла пераехаць у Еўрасаюз. У 2012 годзе МЗС Польшчы запрасіла сайт Хартыя 97 працаваць у Варшаву. Цяпер маем рэдакцыю ў Варшаве і сетку падпольных журналістаў, карэспандэнтаў, інфарматараў у Беларусі.

**Андрэй Пісальнік** прадстаўляў СМІ Саюза палякаў у Беларусі, саюза той часткі палякаў што не прызнаецца ўладамі Беларусі, здэлегалізаванага ў 2005 годзе, здэлегалізаваны былі таксама яго медыі — газета «Głos znad Niemna", журнал «Magazyn Polski na Uchodźstwie"і інтэрнэтная вітрына Znadniemna.pl. Тыя папяровыя медыі друкуюцца ў Польшчы і перасылаюцца ў Беларусь і там распаўсюджваюцца ў "другім абарoце" як нелегальныя выданні. Нашы журналісты ў Беларусі не маюць статусу журналістаў. Зразумела, што ў гэтай сітуацыі мы, палякі, якія знаходзяцца ў апазіцыі да дзейнай улады, не змаглі б выдаваць сваіх медыяў без падтрымкі польскай дзяржавы.

**Агнешка Рамашэўская:** Маю правакацыйнае пытанне: а чаму Польшча мае выдаваць грошы падаткаплацельшчыкаў на падтрмыку беларускіх СМІ? Можа больш зразумела, калі гаворка пра падтрымку СМІ палякаў у Беларусі, хаця гэта вельмі малыя сродкі, але ўсё ж падтрымка.

**Аляксей Дзікавіцкі:** — У гэтым ёсць польская дзяржаўная рацыя. Таму што Беларусь з'яўляецца буфернай дзяржавай паміж Польшчай і Расіяй. Калі рассядзецца ў Беларусі «русский мир», калі загіне беларускі этнас, беларушчына, не будзе бяспечнай Польшчы. Маем 412 кіламетраў польска-беларускай мяжы. Беларускія эліты, якія супрацоўнічаюць з намі, «Белсатам», «Хартыяй» — гэта назаўжды прыяцелі Польшчы. Важна, каб будаваць такую базу, спадзеючыся, што гэтыя людзі дойдуць да ўлады. Тады Польшча будзе мець вялікі капітал, які цяжка збудаваць так папросту. Сведчыць аб гэтым і гісторыя — жылі мы ў адной дзяржаве пару соцень гадоў — у Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў. Унёсак Польшчы ў існаванне тэлеканала „Белсат" цяжка пераацаніць. Нашым галоўным спонсарам і грантадаўцам з'яўляецца Міністэрства замежных спраў Польшчы. Гэта надае зусім іншы ўзровень, і спрыяе іншаму падыходу з боку іншых грантадаўцаў. У нас падрыхтаваныя журналісты, у нас цікавая праграмная прапанова, мы здымаем дакументальнае кіно, у нас цэлая сетка карэспандэнтаў, аператараў і не толькі ў Беларусі. Адукуем найлепшых журналістаў.

**Яўген Вапа:** На беларуска-польскім памежжы функцыянуюць 36 радыёстанцый у дыяпазоне FM, якія можна слухаць на мяжы і па абодва бакі мяжы. Сапраўдная канкурэнцыя. Радыё Рацыя мае трансгранічны абсяг і дзейнічае ва ўмовах такой канкурэнцыі. А адной з галоўных каштоўнасцей і адметнасцей Радыё Рацыя ёсць вяшчанне на беларускай мове. Існаванне Беларускага Радыё Рацыя з 2006 года магчымае, дзякуючы польскаму МЗСу. Яны нас фінансуюць і не ўмешваюцца ў нашы праграмныя справы. Мы займаемся журналістыкай з незалежнага беларускага пункту гледжання. І гэта вельмі карыснае і патрэбнае ў сённяшнім свеце.

**Міхал Янчук:** Беларусь — гэта не проста сусед Польшчы і Еўрасаюза. Беларусь гэта краіна, у якой сёння вырашаецца будучыня ўсёй постсавецкай прасторы. Калі дэмакратыя калісьці пераможа ў Беларусі, то будзе магчымым і яе далейшы марш на ўсход. Калі ж мы сёння здамося імперскай Расеі ў яе цяперашнім выглядзе, то нішто не спыніць далейшага маршу „рускага міру" на захад.

**Наталля Радзіна:** — Я пагаджаюся з Аляксеем наконт ваеннай пагрозы. Дыктатура ніколі не з'яўляецца ста-

працяг ☞ 11

# Вялікія праблемы малога памежнага руху

23 лістапада ў Беластоку адбылася канферэнцыя на тэму „Малы памежны рух паміж Польшчай і Беларуссю", ладжаная Беластоцкім універсітэтам і фондам „Беларускі дом" з Варшавы. Магло б падацца пытанне, дзеля чаго такая канферэнцыя, калі таго руху на справе няма. Аднак гэтае мерапрыемства паказала шырокі ландшафт тых праблем, якія вядзе за сабою ўвядзенне малога памежнага руху, і тыя абумоўленасці, якія яго так паспяхова тармозяць.

Канферэнцыю адкрыў Алесь Зарэмбюк, старшыня Беларускага дома. За ім узяў голас прарэктар беластоцкай вучэльні прафесар Войцех Сляшынскі. Ён, апрача агульных фраз аб карысці ад трансгранічнага абмену, заўважыў, што зараз польска-беларуская граніца пралягае па раней аднalітым абшары. Да таго ж трансгранічны абмен вельмі важны навукоўцам, асабліва нашым гісторыкам, таму, што, для прыкладу, у беларускіх архівах захоўваюцца дакументы з міжваеннага перыяду. Без доступу да архіваў Гродна, Брэста і Мінска вельмі складана даследаваць гісторыю нашых зямель. Архіў у Брэсце захоўвае найбольш дакументаў датычных міжваеннага дваццацігоддзя Польшчы; у Польшчы стольких матэрыялаў няма.

Мацей Жыўна, віцэ-маршалак Падляшскага ваяводства, які раней займаў пасаду падляшскага ваяводы, горка заўважыў, што мы ўсё гаворым пра малы памежны рух, калі яго няма. Восем гадоў таму былі прыняты рашэнні пра рыхтаванне інфраструктуры для малога памежнага руху і два гады пазней было ўжо ўсё гатова для яго запуску. Людзі з беларускага боку, якія непасрэдна працавалі пры падрыхтоўцы гэтага мерапрыемства, былі шчыра зацікаўлены яго поспехам. І мы са здзіўленнем прымалі мінскія паведамленні пра тэхнічныя праблемы на нашым баку. І адзіным чыннікам, які спыніў усё мерапрыемства, з'яўляецца рашэнне беларускага прэзідэнта, а ўсялякія іншыя аргументы штучныя — дзеля нейкага апраўдання ягонага рашэння. Пасля запуску пешага гранічнага руху ў Кузніцы, тамашні магазін „Бядронка" меў найбольшы абарот у Еўропе. Больш — гэта была адзіная „Бядронка" ў паўночнай Польшчы, якая прадавала тэлевізары. Гэта адзін прыклад патрэбы трансгранічнага руху. Да таго ж цікавасць, што дзеецца на другім баку мяжы, прычынялася да таго, што людзі вельмі ахвотна падарожнічалі. Сямейныя сувязі можа ўжо крыху прытухаюць, бо ж чарговыя пакаленні аддаляюцца ад сябе, аднак палёгкі ў перасяканні граніцы вельмі патрэбныя. „Мне хацелася б, — гаварыў спадар маршалак, — каб тыя палёгкі былі такія, што пры іх сам малы памежны рух стаў непатрэбным. А ўжо найлепш было б, калі б Беларусь была ў Еўрасаюзе. Зараз таго малога памежнага руху няма, а калі нават Беларусь прыступіла б да яго, то няма ўпэўненасці, як павёў бы сябе польскі бок. Спыненне малога гранічнага руху з Калінінградскай акругай з'яўляецца дрэнным сігналам, незразумелым. Цяпер згода польскага боку на малы гранічны рух з Беларуссю была б папросту нелагічнай".

Прафесар Ежы Грабавецкі з Беластока сказаў пра гандлёвы абмен Падляшскага ваяводства з Беларуссю. Беларусь мае за сабою козыр у выглядзе свайго роду моста паміж Еўрасаюзам і еўраазіяцкай гаспадарчай прасторай. Беларусь стаіць на парозе мадэрнізацыі, таму там чакаецца вялікі інвестыцыйны попыт. У Беларусі разбудавана сець спецыяльных эканамічных зон. У Беларусі добрая тэхнічная інфраструктура і адносна танная рабочая сіла. Да таго ж там адносна невялікі ўзровень карупцыі і высокая дагаворная саліднасць у адносінах з замежнымі партнёрамі. Доля Беларусі ў гандлёвым абароце з Польшчай маргінальная — Беларусь з'яўляецца дваццаць пятым экспартным партнёрам Польшчы, а трыццаць шостым імпартным; і гэтая структура даволі інертная, трывалая. З паасобных ваяводстваў найбольшая доля гаспадарчага абмену з Беларуссю выпадае на Мазавецкае ваяводства, якога ўдзел крыху перасягае 25% у маштабе Польшчы. Падляшскае ваяводства на другім месцы, але са значна меншай доляй. Замежны гандаль нашага ваяводства з краінамі Еўрасаюза ў тры разы большы за такі ж абмен з дзяржавамі СНД. За апошнія два гады тавараабмен Польшчы з Беларуссю згортваецца, гэта здаецца быць вынікам заўважнага ад двух гадоў крызісу ў беларускай эканоміцы.


Ежы Грабавецкі

Павел Гут з Міністэрства ўнутраных спраў РП крыху рассакрэціў прычыны, дзеля якіх быў спынены малы памежны рух з Калінінградскай акругай. Менавіта той рух прыносіў страты дзяржаўнаму бюджэту нашай краіны, гэтым каналам пранікалі ў Польшчу акцызныя вырабы. Больш падрабязныя пытанні спадар Гут спасылаў на цьмянасць палітычных абумоўленасцей.

Шырэйшую перспектыву так палітычных, як і эканамічных абумоўленасцей увядзення малога памежнага руху паміж Польшчай і Беларуссю прадставілі ўдзельнікі панэльнай дыскусіі.

Анна Дынер з Польскага інстытута міжнародных спраў адзначыла, што пытанні малога памежнага руху мусяць быць узгоднены з Еўракамісіяй, таму што польска-беларуская граніца з'яўляецца граніцай ЕС, таксама граніцай шэнгенскага пагаднення. Дзеля прыкладу, радыус малога памежнага руху так з Украінай, як і з Калінінградскай акругай Расіі быў значна пашыраны адносна стандартных еўрасаюзных нормаў. Малы памежны рух можна разглядаць у трох ракурсах. З палітычнага аспекту малы памежны рух з'яўляецца выразам двухбаковых адносін. Дамовы рыхтаваліся ў той час, калі ўзаемныя адносіны РП і ЕС з усходнімі суседзямі былі добрыя або нават выдатныя; пасля гэта памянялася. У рэгіянальным аспекце граніца можа дзяліць, але можа і ўплываць станоўча на ўзаемаадносіны — можа прыносіць гаспадарчае ажыўленне ў прыгранічнай пяцідзесяцікіламетровай паласе, бо на такую адлегласць, у прынцыпе, паглыбляюцца прыезджыя. Тут таксама наглядалася супрацоўніцтва паміж мясцовымі суб'ектамі, напрыклад з Калінінградскай акругай Вармінска-Мазурскае ваяводства ладзіла супольныя спартыўныя мерапрыемствы. Грамадскі аспект гэта не толькі непасрэдныя кантакты паміж людзьмі, напрыклад, у крамах. Тут дзейнічае яшчэ адзін фактар, які дакладчыца назвала тэрмінам *soft power*, змякчанне напружанасцей, дзе людзі пазнаюць сапраўдную рэальнасць у суседзяў, зусім незалежна ад іх вобразу ў сродках масавай інфармацыі. Ёсць і негатыўны бок гэтага руху, напрыклад, жыхары Польшчы выязджалі ў Калінінградскую акругу галоўным чынам дзеля куплі паліваў ці іншых акцызных вырабаў; з польскага боку паўсталі нават размеркавальні з расійскім палівам. Развіццё бізнесу прычынілася да спаду беспрацоўя.

Каміль Клысінскі з Асяродка ўсходніх даследаванняў заўважыў, што адзіным паслядоўным дзеяннем беларускіх улад з'яўляецца блакіраванне запуску малога памежнага руху, затое аргументацыя гэтага стаўлення мяняецца. У перыяд рэзкага пахаладання еўрасаюзна-беларускіх адносін Мінск аргументаваў неспрыяльнай палітычнай сітуацыяй. Можна дадумвацца, што гэта за палітычныя прычыны, гэта г.зв. *regime change*, падазрэнне ў бок польскага кіраўніцтва, што яно хоча звергнуць беларускую ўладу. Таксама і санкцыі настаўлялі Мінск варожа да гэтай ініцыятывы. Сітуацыя змянілася, калі сёлета быў усчаты дыялог, тады ранейшая аргументацыя страціла верагоднасць; са студзеня г.г. ужо не чуваць палітычных закідаў — з'явіўся тэхнічны фактар. Шэф памежнага камітэта Беларусі генерал Мальцаў абнародаваў апасенні, што на запуск малога памежнага руху не гатова гранічная інфраструктура, што яна можа задушыцца пад ціскам прагнага перасякаць межы народу. Аднак дакладчык палічыў гэтыя, так палітычныя, як і арганізацыйныя аргументы, толькі шырмай сапраўднай прычыны супрацьўлення беларускім бокам — у сапраўднасці беларускі бок апасаецца высмоктвання з Беларусі валюты, з якою Мінск мае пастаянны клопат. Нельга таксама выключыць і расійскага ўздзеяння, асабліва ў кантэксце апошніх падзей на Крыме і ў Данбасе; беларускія ўлады апасаюцца маскоўскай рэакцыі на такія адназначныя хады Мінска ў напрамку збліжэння з Варшавай, якая лічыцца рассаднікам антырасійскасці ў Еўропе.



Павел Гут


Мацей Жыўна

Андрэй Паротнікаў з BelarusSecurityBlog адзначыў, што еўрасаюзна-беларускі малы памежны рух ахапіў бы каля трох з паловай мільёнаў чалавек. А зараз беларускія памежныя службы працуюць з перавышэннем праектнай нагрузкі ў паўтара-чатыры разы. Да таго трэба мець свядомасць, што развіццё памежнай інфраструктуры гэта не аднаразовая інвестыцыя, што гэта не толькі пабудова аб'ектаў. Гэта таксама інвестыцыі ў людзей, бо запатрабуецца дадатковая працоўная сіла — мытнікі і памежнікі, іх трэба будзе не толькі болей, іх трэба будзе болей у разы. Іх трэба падрыхтаваць, аплачваць і ў 48 гадоў адправіць на пенсію. Перспектыва вывазу валюты грамадзянамі РБ вельмі трывожная. У наступным годзе трэба выплаціць чатыры мільярды знешняй запазычанасці, а ліквідныя рэсурсы золатавалютных рэзерваў Беларусі складаюць 2,3 мільярда доляраў; можна сказаць, што Беларусь практычна балансуе на мяжы неплацежаздольнасці. Таму беларускія ўлады выпрацавалі зараз такое Саламонавае рашэнне — сваіх не пускаць у замежжа, але пускаць замежнікаў у Беларусь: грамадзянам 68 краін плануецца дазволіць караткатэрміновыя бязвізавыя паездкі ў Беларусь. Да таго ж малы памежны рух не з'яўляецца зараз галоўным пунктам павесткі дня беларускіх улад. Расія ў аднабаковым парадку фактычна скасавала міжнародную дамову з Беларуссю і ўвяла памежны кантроль на беларуска-расійскай мяжы; тлумачаць гэта тым, што з тэрыторыі Беларусі могуць трапіць у Расію нейкія тэрарысты. Таму пільнае развіццё сітуацыі на ўсходняй мяжы Беларусі і магчыма прыйдзецца ў маланкавым парадку і там усталёўваць нейкі кантроль, а гэта запатрабуе і людзей, і дадатковых рэсурсаў. І тут не прыходзіцца гаварыць пра нейкія доўгатэрміновыя рашэнні.

Андрэй Елісееў расказаў пра гісторыю дазволаў на малы памежны рух. Згадваючы пра актуальныя нараканні беларускіх улад на недахопы памежнай інфраструктуры, заўважыў, што нідзе, ад Нарвегіі па Румынію, няма ідэалу, што ўсюды здараюцца нейкія праблемы. Генерал Мальцаў малюе апакаліптычны вобраз на беларускай мяжы з момантам запуску малога памежнага руху. Аднак у рэальнасці працэдуры выдачы пропускаў на перасяканне мяжы ў яго рамках працуюць так, як і працэдуры атрымання візы, а гэта значыць што колькасць пропускаў будзе расці не лавінна толькі паступова. Трэба таксама мець на ўвазе абмежаваную колькасць персаналу консульстваў, які будзе займацца выдачай пропускаў, у тым ліку і тым, якія зараз хадайнічаюць за візамі.


Анна Дынер, Каміль Клысінскі, Андрэй Паротнікаў і Андрэй Елісееў

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА



Бельскі беларускі ліцэй

# Пачаткі ліцэя. Яраслаў Кастыцэвіч (ч.3)

Стала ясна, што каб добра наладзіць працу Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання і Пачатковай школы ў такіх умовах, патрэбны добры дырэктар — выдатны арганізатар і педагог. Такім чалавекам быў Яраслаў Кастыцэвіч. І ён ужо дасканала спраўдзіўся ў такой ролі. Яго кандыдатуру на пасаду дырэктара запрапанавалі настаўнікі, Бацькоўскі камітэт і беларускія дзеячы. З гэтай прапановы ў сваю чаргу не былі задаволеныя тагачасныя палітычныя ўлады. Усе іх аргументы былі якраз супраць гэтай кандыдатуры: святарскае і нябеднае паходжанне, руская адукацыя і выхаванне, царскі афіцэр і савецкі падсудны, шанаваны нямецкімі ўладамі, беспартыйны і глыбока веруючы праваслаўны. Партыйныя ўдалы ведалі, што такім людзям заўсёды бліжэй да царквы, чым да камітэта партыі. Станоўча замала заган, як на аднаго чалавека. Палітычная няўстойлівасць лічылася тады горш маральнай расхлябанасці. Цяпер, зрэшты, таксама...

І ўсё ж такі Яраслаў Кастыцэвіч стаў дырэктарам Бельскага беларускага ліцэя і Пачатковай школы. Значыць, меў ён многа яшчэ іншых непалітычных плюсаў. Значыць яшчэ і тое, што ўжо тады пачалі паяўляцца ў нас парасткі сапраўднай дэмакратыі і плюралізму, пра якія мы пачулі многа-многа пазней.

У сваёй некароткай ужо гісторыі Бельскі беларускі ліцэй некалькі разоў змяняў сваю афіцыйную назву. Каб пазбегнуць частых паўтарэнняў гэтых доўгіх назваў, я буду называць яго проста Беларускі ліцэй або Ліцэй, бо менавіта ў гэтых двух словах і заключаецца асноўны яго сэнс. І так найчасцей называюць яго мясцовыя людзі. А цяпер давайце шырэй пагаворым пра некаторыя плюсы Яраслава Кастыцэвіча як дырэктара бельскага Беларускага ліцэя.

І так, як толькі дырэктарам Ліцэя стаў Я. Кастыцэвіч, адразу і закіпела работа, хоць ён і не быў ужо маладым чалавекам. Пільнай справай было тады запэўненне сталага прытоку ў Ліцэй адпаведнай колькасці вучняў. Рашаў дырэктар гэтую справу па-рознаму: праз знаёмых людзей, якіх ведаў ён мноства, праз пачатковыя школы, якія наведваў асабіста, і прыхадскіх святароў. І людзі ахвотна дапамагалі, бо адмовіць Яраславу Васільевічу проста не выпадала. Мог нават дагаварыцца са знаным мясцовым чыноўнікам палякам, каб той паслаў на нейкі час сваю дачку ці сына ў Беларускі ліцэй, а па нейкім часе перавесці яе ці яго ў польскі ліцэй. Проста была такая патрэба часу.

Памясціўся Беларускі ліцэй на трэцім, апошнім паверсе даволі прыгожага мураванага школьнага будынка пры перакрыжаванні вуліц А. Міцкевіча і Відаўскай. Выбягаючы наперад скажу, што знаходзіўся ён там да пачатку 1961 года. Два ніжэйшыя паверхі займала польская Пачатковая школа № 1. Школа не мела праточнай вады і гімнастычнай залы, а туалет знаходзіўся метраў за пяцьдзясят ад школы. Абагравалася школа печкамі, з-за чаго — зноў выбягаючы наперад — у 1956 годзе, ноччу, у адным класе ўзнік пажар. І нарабіў ён мноства клопатаў дырэктару і Ліцэю...

І гэта менавіта там, на трэцім паверсе школьнага будынка 1 верасня 1949 года зноў распачаў сваю працу Бельскі беларускі ліцэй. І хоць пачаткі яго былі надта цяжкія і скромныя, але з году ў год пачала памаленьку папраўляцца, як матэрыяльная, так і кадравая яго сітуацыя. З 1950 года пачынае працаваць у Ліцэі настаўнік беларускай мовы Ілля Захаравіч Бэрнат. Каларытная і запамінальная гэты постаць. Закончыўшы вышэйшыя навучальныя ўстановы вярнуліся настаўнікамі ў Ліцэй першыя ліцэйскія абітурыенты: Рыгор Анацік і Серафіма Кандрацюк. Былі яны вельмі добрымі настаўнікамі і аддалі ўсё сваё доўгае працоўнае жыццё і веды Беларускаму ліцэю. Потым прыйшлі ў Ліцэй Мікалай і Зінаіда Красоўскія, Пятро Анапюк і многія іншыя.

У 1952 г., зноў вельмі важная для Ліцэя і ўсяго беларускага школьніцтва ў Польшчы падзея — першы, пасля доўгага перапынку, экзамен на атэстат сталасці ў Бельскім беларускім ліцэі. Здаў яго і атрымаў атэстат сталасці 21 абітурыент.

Ад гэтага часу Ліцэй пачынае працаваць на ўсе свае кадрава-аўдыторныя магчымасці. Усе аддзелы і класы запоўнены. У восьмых класах нават па сорак і больш вучняў. Толькі ў дзясятых і адзінаццатых класах прастарней, бо камусьці не атрымалася, хтосьці не зжыўся з ліцэйскімі ўмовамі, хтосьці задаволіўся малой матурай, хтосьці перайшоў у афіцэрскую школу ці духоўную семінарыю, ці пайшоў працаваць, давучваючыся вячэрнім або завочным спосабам. Як бачым, многім з нас, пераважна вясковым хлопцам і дзяўчатам, Ліцэй быў пуцёўкай у жыццё. Быў ён проста нашым універсітэтам...

А цяпер, на ўласным прыкладзе, хачу паказаць, якімі мы тады былі і як нас вучылі і выхоўвалі ў Ліцэі ў часы паважанага Яраслава Кастыцэвіча, бо і тадышнія ліцэйскія настаўнікі ахвотна карысталіся дырэктарскімі метадамі. І з навукі, і з паводзін быў я вучнем, можна сказаць, сярэднім. Значыць такім, на якім трымалася ды трымаецца ўсё наша школьніцтва. Мелі мы падобную падрыхтоўку, выхаванне, думкі, жаданні, палітычную арыентацыю, успрыманне свету. Значыць, усё тое, што тут будзе звязанае са мною, думаю, можна смела аднесці да абсалютнай большасці нас, тадышніх ліцэістаў. *(працяг будзе)*

❖**Васіль САКОЎСКІ**

kroza

# http://kroza.by

У Беларусі неяк так павялося, што ўсё, датычнае ювелірнай дзейнасці, аформлена па-руску. Паколькі золата, срэбра і іншыя каштоўныя металы і камені з'яўляюцца ўвасабленнем раскошы, то яно не надта, па меркаванні звычайных людзей, датычнае беларусаў — „паноў сахі і касы". Таму вельмі цяжка, напрыклад, уявіць, каб на распаўсюджаных па ўсёй Беларусі ювелірных крамах „Царское золото" пісаліся шыльды па-беларуску.

Разам з тым часы паволі, але марудна, але змяняюцца. Як маленькая расліна праз асфальт прабіваецца ў беларусаў павага да саміх сабе. Павага гэтая кволенькая зусім, лёгка яе, як тую травінку, вырваць з коранем, але разбураны асфальт застанецца, і ў хуткім часе там жа ці побач праб'ецца да святла яшчэ адна, а можа не адна такая ж раслінка.

Прыкладам такой беларускай самапавагі, якая з'явілася нядаўна, можна назваць сайт ювелірнай майстэрні „Кроза", што месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://kroza.by**. Каб не ўспрымалася апісанне данага сайта як рэклама, варта адзначыць, што зроблены ён вельмі просценька, без мноства сучасных аздабленняў, не мае ніякай мультымедыйнасці і з-за гэтага не падаецца надта прывабным. У той жа час у гэтай прастаце прасочваецца нешта значна большае, чым жаданне прэзентаваць сябе. Па ўсім відаць, што гаспадару сайта прадпрымальніку Каралёву, важна зрабіць гэта па-беларуску, падкрэсліўшы, можа несвядома, прыдатнасць нашай мовы да ювелірнага бізнесу. Паколькі на сайце няма больш ніякіх іншых моўных версій, то яго беларускамоўнасць з'яўляецца сцвярджэннем, што беларусы і іх мова нічым не горшыя за суседнія народы і іншыя мовы, нават калі ідзе пра элементы раскошы.

„Майстэрня Kroza гэта: высокі ўзровень абслугоўвання; хуткі і высакаякасны рамонт і рэстаўрацыя ювелірных вырабаў; ювеліры-прафесіяналы сваёй справы; афіцыйная гарантыя на паслугі майстэрні; ветлівыя майстры і еўрапейскі сэрвіс; зніжкі, акцыі, падарункі да Дня народзінаў; дысконтная праграма; утульная майстэрня ў гістарычным цэнтры Мінска; зручны рэжым работы; рамонт вырабаў з золата, срэбра, біжутэрыі", — рэкламуюць сябе ювеліры на галоўнай старонцы ўласнага сайта.

Паколькі, як адзначалася вышэй, віртуальнае прадстаўніцтва „Крозы" даволі проста аформленае, то сайт мае ўсяго толькі чатыры старонкі, не лічачы галоўнай. Для тых, хто збіраецца бліжэйшым часам рамантаваць свой пярсцёнак ці жончыны залатыя завушніцы, старонка „Карысная інфармацыя" распавядзе аб асаблівасцях рамонту ювелірных упрыгожванняў. Там апісваецца, што такое гальваніка, залачэнне, серабрэнне, пакрыццё родыем. Інфармацыя аздоблена фотаздымкамі.

Праўда, не ўсе цікавыя расповеды аб упрыгожаннях па-беларуску ад „Крозы" месцяцца на яе сайце. Значная частка падаецца на старонцы майстэрні ў фейсбуку. Менавіта адтуль мы даведаемся, што „Кроза" адчынілася зусім нядаўна — у верасні гэтага года.

Параўноўваючы сайт майстэрні і яе старонку ў сацыяльнай сетцы прыходзіш да высновы, што аб апошняй гэтыя ювеліры дбаюць больш. Там больш здымкаў і нават пастаўленае відэа, якое распавядае пра зніжкі для кліентаў у дзень іх народзінаў.

❖**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара



Першы беларускі музей

## 160 гадоў з дня адкрыцця

# Віленскага музея старажытнасцей

1 снежня 1856 г. у будынку бібліятэкі Віленскага ўніверсітэта Яўстахам Тышкевічам быў адчынены музей старажытнасцей. Гэты збор стаўся б немагчымы, калі б не дзейнасць слыннага прадстаўніка графскага роду. Асноўным заняткам Яўстаха Тышкевіча была навука. Пачынаючы з 1837 г. ён даследаваў курганы на Лагойшчыне, Барысаўшчыне, каля Менска, у Друцку, Лідзе, Крэве, Міры, Гальшанах і іншых мясцовасцях. Не зважаючы на свае графскія тытулы, браты Яўстах і Канстанцін, а часам і іх бацька, бралі ў рукі рыдлёўкі і разам з сялянамі раскопвалі старажытныя курганы. Таксама хадзілі па вясковых хатах і запісвалі народныя песні, легенды, паданні, удзельнічалі ў абрадах.

У 1843 г. Яўстах Тышкевіч з мэтай археалагічных і гістарычных даследаванняў наведаў Данію, Фінляндыю і Швецыю. Ужо пазней ён быў ушанаваны тытуламі ганаровага члена Пецярбургскай і Стакгольмскай Акадэмій навук, Лонданскага археалагічнага інстытута. З 1855 г. Тышкевіч арганізаваў і ўзначаліў Віленскую археалагічную камісію. У яе склад уваходзілі такія навукоўцы як Тодар Нарбут, Ігнат Крашэўскі, Ігнат Ходзька, Міхал Гамаліцкі, Адам Кіркор. Запаветнай марай Яўстаха Тышкевіча было стварыць у Вільні першы музейны асяродак на падставе экспанатаў, раней сабраных у Лагойскім археалагічным музеі. Тышкевіч стаў папячыцелем Віленскага музея старажытнасцей, які ён стварыў на аснове ўласных археалагічных калекцый. Яшчэ ў 1845 г. граф частку сваёй лагойскай калекцыі перавёз у Вільню пад выглядам выставы, якая пазней пераўтварылася ў прыватны музей. Музей актыўна папаўняўся экспанатамі з Менска, Магілёва, Віцебска, Оршы, Навагрудка, Крэва, Ліды, Пінска, Браслава, Паставаў і іншых гарадоў. Тышкевіч ахвяраваў музею сваю бібліятэку (3 тысячы кніг) і разам з братам Канстанцінам — археалагічную калекцыю з 2 тысяч адзінак. За два гады калекцыя музея дасягнула 10 тысяч экспанатаў. Каталог музея да яго адкрыцця рыхтаваў Адам Кіркор, які складаў рэестры і пазней. Размяшчаўся музей у будынку былога Віленскага ўніверсітэта, які быў зачынены ў 1831 г. Грашыма вельмі дапамагаў Канстанцін Тышкевіч. Навуковая дзейнасць музея набыла шырокі розгалас. У Вільню прыязджаў вядомы гісторык Мікалай Кастамараў, які сустракаўся з Я. Тышкевічам, А. Кіркорам, У. Сыракомлем, А. Адынцом, М. Маліноўскім. Ён адзначаў, што гэтым асобам вельмі няпроста працаваць сярод польскага атачэння, якое лічыла названых ледзь не здраднікамі справы польскага руху.

Пасля паўстання 1863 г. у выніку расейскай рэпрэсіўнай палітыкі Тышкевіч быў вызвалены з усіх пасад. Паводле загаду Мураўёва-вешальніка музей быў афіцыйна забаронены ў 1864 г. «Шкодныя» экспанаты музея вывозіліся ў Маскву, папросту адбывалася рабаванне беларускіх каштоўнасцей. Неўзабаве, праўда, было прынятае рашэнне аб іх вяртанні назад, але вярнуліся далёка не ўсе ўнікальныя рэчы. У 1865 г. Яўстах Тышкевіч пакінуў Вільню. Частка збораў трапіла ў калекцыю польскага этнографа Зыгмунта Глогера, а потым у Нацыянальны музей у Варшаве. Іншая частка збораў Тышкевіча пазней, дзякуючы высілкам Івана Луцкевіча, адшукана і ўвайшла ў фонд Беларускага музея ў Вільні, які дзеяў у 1921-1945 гг., пакуль таксама не быў зачынены чужынцамі-захопнікамі.

Стваральнік музея Яўстах Тышкевіч пахаваны ў Вільні на могілках Росы.

❖**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

8 ☞ працяг

## Акно для беларускага чытача

більнай. Трэба гэтаму супрацьстаяць таксама ў інфармацыйным плане. Незалежныя беларускія медыі — польскае акно для беларускага чытача і гледача. Вельмі шмат пішам пра польскую эканоміку, палітыку, Польшча для нас добры прыклад. Мы выхоўваемся на прыкладзе польскай «Салідарнасці» і хацелі б дабіцца да новай дэмакратычнай Беларусі паводле польскіх рэформ. Калі не будзе незалежных СМІ, адзіным лідарам, які будзе інфармаваць грамадзян, будуць дзяржаўныя СМІ.

**Войцех Кананчук:** — У польскім інтарэсе ляжыць Беларусь незалежная. А медыі з'яўляюцца інструментам, які служыць развіццю беларускай тоеснасці, беларускай культуры і мовы. Другой функцыяй з'яўляецца фармаванне іміджу Польшчы як прыязнага суседа, які насуперак таму, што кажа беларуская прапаганда, не мае прэтэнзіі да абшару, а польскія ўлады не мараць аб польска-беларускай мяжы пад Мінскам. У польскім інтарэсе ляжыць Беларусь як суверэнная дзяржава, якая развіваецца, якая захоўвае правы чалавека і мае дэмакратычную сістэму. Калі гаворка пра падтрымку незалежным СМІ ў Беларусі, дык Беларусь з'яўляецца найбольшым бенефіцыянтам з усіх краін Усходу і Каўказа, прытым Польшча з'яўляецца найбольшым донарам для Беларусі нават з усіх еўрасаюзных дзяржаў. Нават Нямеччына дае менш развойнай дапамогі чым Варшава. Толькі Еўрапейская камісія ад двух гадоў падтрымлівае больш Беларусь у гэтым плане. Што ключавое ў гэтай развойнай падтрымцы для Беларусі — медыі займаюць вядучае месца, як польскія СМІ там дзейнічаючыя, так і іншыя ў той ці іншай форме, якія атрымліваюць польскую дапамогу. Польшча з'яўляецца таксама ключавым месцам абучэння незалежных беларускіх журналістаў. Фонд, які ўзнік пару гадоў таму ў Брусэлі, быў польскай задумы і фінансуецца галоўным чынам польскімі грашыма — ён змяшчае ў сабе падтрымкавыя праграмы, таксама для Беларусі. Польскія грантадаўцы гэтай падтрымкай не хваляцца і пра гэта не гавораць, таму што гэта было б небяспечна для саміх атрымальнікаў грантаў. Без польскай падтрымкі беларускіх СМІ ў такой форме, у якой яна ёсць, проста не было б. Без польскай дапамогі незалежныя беларускія медыі не змаглі б існаваць у цяперашніх умовах.

❖ Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

## Дарагія сябры з «Нівы»

Сардэчна дзякую за памяць аба мне і запрашэнне на юбілейныя ўрачыстасці 60-годдзя «Нівы». Шкадую, што не магу ўдзельнічаць у свяце, але адчуваю сябе не найлепш і трэба мне пазбягаць падарожжаў. Аднак думкамі і сэрцам буду з Вамі!

З «Нівай» я ўпершыню сустрэўся гадоў пяцьдзясят таму і, з перапынкамі, сябрую з ёю да сённяшняга дня. Яшчэ жывучы ў цэнтральнай Польшчы, спрабаваў я падпісвацца на штотыднёвік, але была гэта для Польскай пошты цяжкая для выканання задача. Звычайна даходзіла да мяне невялікая частка аплачаных экземпляраў. Прыходзілася купляць у кіёсках на Беласточчыне падчас наведвання сяброў у Гайнаўцы або паломніцтва на Святую Гару Грабарку. Заўсёды здзіўляла мяне, чаму «Ніва» не ляжыць у кіёсках наверсе, толькі дзесьці ў кутку, пад іншымі газетамі. Цяпер магу купіць яе беспраблемна, але «Ніва» не змяніла свайго месца ў пунктах продажу. Не магу зразумець такога грэблівага стаўлення прадаўцоў да гэтага перыядычнага выдання.

У маім доме «Ніва» заўсёды была кімсьці блізкім. Старэйшае пакаленне маіх сваякоў актыўна карысталася беларускай мовай, а я — на жаль — пісаць на гэтай мове не ўмею. Але не гэта з'яўляецца прычынай майго маўчання апошнім часам. Папросту я цяпер мала мабільны і цяжка мне знайсці цікавую тэму, аб якой можна напісаць у «Ніву».

Спадзяюся, што «Ніва», дасягнуўшы 60-гадовага ўзросту, не збіраецца на пенсію. Хаця напэўна бліжэйшыя гады не будуць лёгкімі. Агульная абмежаванасць грамадства, якая праяўляецца, між іншым, у нечытанні друкаваных тэкстаў ці ў неразуменні прачытанага, стала настолькі трывожнай, што ў будучыні стане немалой праблемай. Гэтае тычыцца не толькі «Нівы». Прытым падае лік асоб, якія ўмеюць прачытаць іншы чым польскі алфавіт. Думаю, што самі бачыце гэтую пагрозу і шукаеце лепшага кантакту з адыходзячым ад меншаснай тоеснасці чытачом. Можна з упэўненасцю сказаць: штотыднёвік добра і цікава рэдагаваны, толькі трэба ХАЦЕЦЬ працягнуць па яго руку. А як да гэтага схіліць людзей — на жаль — не ведаю.

А сёння жадаю Вам удалай урачыстасці і добрай дружнай атмасферы.

МНОГАЯ ВАМ ЛЕТА! Сардэчна Ваш — **Марк Цыбарт**

Бацікі, 22 лістапада 2016 г.

Многа у жыцці губляеш, калі "Ніву" не чытаеш!

## Дзякую!

Праграмная рада тыднёвіка «Ніва»! Сардэчна дзякую за запрашэнне мяне на святкаванне слаўнага юбілею «Нівы»! Але, на жаль для мяне, маё здароўе не дазваляе мне на ім прысутнічаць. Але вельмі цешуся, што дачакаў моманту святкавання газеты, якая і для мяне была неадноўчы прыхільнай.

З нагоды існавання і плённай дзейнасці слаўнага беларускага часопіса шэсцьдзясят гадоў, я з прыемнасцю жадаю, каб «Ніва» жыла і квітнела вечна і без турбот. Няхай журналісты і іншыя працаўнікі «Нівы» дачакаюцца не адна стагоддзя, каб наш тыднёвік не загінуў, а прыстойныя беларусы пісалі і чыталі. Жадаю Вам усяго добрага на чале з моцным здароўем ды на доўгія гады!

З пашанай — Ваш **Васіль Петручук**

**Глыбокапаважаныя Рэдактары, Шаноўныя Калегі-Журналісты, Дарагія Сябры,**

Прыміце самыя шчырыя віншаванні ў сувязі з прыгожым Юбілеем 60-годдзя.

«Ніва» прайшла праз розныя перыяды ў сваім развіцці: больш і менш складаныя, увайшла ў прыгожы ўзрост — дасягнула сталасці, што выразна адлюстроўваецца на Яе старонках. І ў гэтым вялікая заслуга Вас — Рэдактараў, Аўтараў ды Усіх, хто прычыняецца да Яе выдання.

У гэты важны дзень зычым Вам Усім, каб Тыднёвік Беларусаў у Польшчы інтэнсіўна развіваўся, каб абміналі Вас усялякія буры і нягоды, а цікавая праблематыка прыцягвала ўсё большае кола Чытачоў. Зычым Вам многа сіл і натхнення ў Вашай працы на карысць пашырэння беларускага слова ў Польшчы, на карысць нашай Малой Айчыны!

**Ніна і Алесь Баршчэўскія**

# 04.12 — 10.12

**(22.03. — 20.04.)** Паставіш на сваім і так зробіш, як хочаш. У снежні пісаны табе поспех. Бярыся за тое, што ўвесь час адкладваў. Неба прынясе табе рэвалюцыйныя задумы. Аграмадны прыліў энергіі 7-11.12. Пі цёплую ваду з лімонам.

**(21.04. — 21.05.)** Добры рэфлекс. Твае прафесійныя задумы трапяць на добры грунт 7-9.12. У фірме многа працы, не шкадуй заставацца на рабоце, не бойся, горб табе не вырасце. 4.12. магчымы момант хвалы. Мусіш аформіць шмат старых нялёгкіх спраў. У пары горача. Калі прытрапіцца хвароба, абавязкова кладзіся ў ложак.

**(22.05. — 22.06.)** Будзеш ведаць, чаго чакаеш ад жыцця, твае рашэнні будуць трапныя. Мноства энергіі, але не зашкодзіш сабе імпульсіўнымі рухамі. Прыйдзецца ўпарадкаваць крыху спраў і адносін. Будуць «разрыўкі». Будзе цябе ацэньваць асяроддзе. Увесь месяц можаш знайсці добры занятак. Можаш атрымаць прапанову якая дасць табе вялікія магчымасці развою. З 8.12 (да 12.12.) можаш атрымаць падарунак — спадчыну, кампенсацыю, вернуты доўг.

**(23.06. — 23.07.)** 4.12. будзеш поўны аптымізму, мілыя хвіліны ў абдымках. Але 7.12. могуць выявіцца твае занядбанні і недаробкі. Будзеш цікавым кампаньёнам. Знаёмствы, якія наладзіш у снежні, могуць цалкам адмяніць тваё жыццё. Час спрыяе падарожжам. Дбай аб форму, рэгулярна практыкуйся. Лаві кожную нагоду! Намячай новыя мэты.

**(24.07. — 23.08.)** 4-8.12. расправішся з кожным ворагам. Сімпатыя атачэння і канкрэтная дапамога. У працы і на імпрэзах не будзе табе роўных. Мілую асобу пазнаеш, бегаючы ў парку ці ў трэнажорнай зале. Твая кар'ера залежыць ад таго, якое ўражанне акажаш на людзях, таму сур'ёзна аднасіся нават да прыбіральшчыцы ў фірме.

**(24.08. — 23.09.)** Дзякуючы разумнай тактыцы і цярплівасці гэты год кончыш паспяхова. Трэба будзе супаставіць сілы з канкурэнцыяй і матэрыяй. У фірме пакажы, што ўмееш, а не недаацэньваючы высілкі супрацоўнікаў. Бяры голас у фірме. Будзеш добра сарганізаваны. Не пачынай цяпер рамонту. 7-9.12. дагаворышся нават са сваім ярым праціўнікам.

**(24.09. — 23.10.)** Аформіш найважнейшыя справы. Эфекты гэтых дзеянняў задзівяць нават цябе самога! Пераможаш канкурэнцыю, выйдзеш наперад. 7-11.12. паверыш у сябе і перастанеш баяцца параз. Але будуць зайздроснікі, якія схочуць цябе выгрызці з тваіх праектаў. Шалі на сваім могуць перакінуцца на іншы бізнес. Твае CV не пераканае цяпер працадаўцу, знайдзі іншы спосаб пошукаў добрай працы; можа, зачапі яго ў інтэрнэце?

**(24.10. — 22.11.)** 4-5.12. чыясь упартасць і бяздумнасць могуць давесці цябе да кіпення. Будзеш рацыянальны. Выкарыстаеш добрыя лады і знойдзеш не адну падставу для таго, каб цешыцца тым, што даў табе лёс. Шыкуецца любоўная прыгода, але не будзе гарантаваць яна стабільных і трывалых адносін. Стаў на кантакты тварам у твар. Худзей, але без рэстрыкцыйных дыет.

**(23.11. — 22.12.)** 4.12. не ўлезь у якуюсьці кабалу! Да 5.12. будзе табе здавацца, што сустракаюць цябе адны непрыемнасці. 7-11.12. стрэнеш асобы, якія падтрымаюць цябе і добра табе параяць. Аж да 20.12. неба абяцае табе добры ход спраў. Самаўпэўненасць, энергія. Дзейнічай, бо можаш далёка зайсці! Але без панібрацтва з начальнікамі. Прыслухоўвайся плёткам — інфармацыі могуць табе спатрэбіцца. Дбай аб свае косці. Калі ты народжаны ў лістападзе, пільнуйся за рулём.

**(23.12. — 20.01.)** 4.12. будзеш перажываць непатрэбны стрэс. А знойдзеш шмат прычын для радасці. Можаш разлічваць на малыя поспехі і шматлікія палёгкі. Але аж да 21.12. не выхільвайся, шмат тваіх намераў можа быць тарпедаваных. Будзь цярплівым! Працуй, абучай калег і падапечных — будзеш цешыцца іхнімі поспехамі. А неўзабаве можаш спадзявацца добрых вестак пра працу. Еж арэхі.

**(21.01. — 19.02.)** Поспех на працы, разгроміш канкурэнцыю, збярэш пахвалы — на пачатку тыдня. Здароўе, добры настрой. Будзеш прабойны, але не ідзі «па трупах». Не ўключайся ў інтрыгі і не вер плёткам. Людзі будуць прыхільныя табе. Бяры работы колькі дасі рады — справішся з усім. Але пазбягай цяжкіх тэм для размоў. Выдатны час для мастакоў, прызнанне.

**(20.02. — 21.03.)** На пачатку тыдня будзеш лёгкай здабычай для абманшчыкаў і злодзеяў. 6-10.12. найлепшыя адносіны з блізкімі. Выпутаешся з нязручных сітуацый. Пачуццё гумару цябе не пакіне! Асабліва 8-10.12. не спазняйся на працу! Дазволь сябе ашчаслівіліваць іншым, а ты адпачывай і набірайся сілы. Парадкуй і падводзь год, намячай планы на наступны, пакуль не пачынай новага. Асцярожна выдавай грошы.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

## Адгаданка Адгаданка Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

**1.** бітва, сутычка = 21 _ 16 _ 17 _;
**2.** кіпяток = 15 _ 24 _ 23 _;
**3.** фурманка = 2 _ 3 _ 12 _;
**4.** партнёр гускі = 9 _ 28 _ 20 _ 19 _ 27 _;
**5.** квадратны корань з чатырох = 11 _ 25 _ 10 _;
**6.** пасяджэнне, напрыклад парламента = 14 _ 13 _ 7 _ 26 _ 8 _;
**7.** гарбата = 5 __ 6 __ 4 __;
**8.** уцякае гадзінамі, днямі, гадамі = 18 __ 22 __ 1 __.

**(ш)**

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | | 5 | 6 | 7 |
| | | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| 14 | 15 | 16 | 17 | | 18 | 19 | 20 |
| 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 46 нумара**

Чавусы, гарнізон, Быкаў, быль, тайга, бугай, дзеянне, рыла, галоп, матыль.

Рашэнне: **Быў бы араты, будзе й прыганяты**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# Пашырэнне падляшска-палескай прасторы ў рэпартажах «Нівы»

Рэпартаж быў прысутны ад першых нумароў «Нівы». У гэтым месцы хачу нізка пакланіцца сваім вялікім, ніўскім папярэднікам і майстрам жанру: Міхасю Шаховічу, Сакрату Яновічу, Міхасю Хмялеўскаму ці прысутнаму сёння на свяце прафесару Уладзіміру Паўлючуку, аўтару культавага «Рэпартажу пра канец свету».

Мой рэпарцёрскі выклік пачаўся з Падляшша, 23 гады таму назад. Гэта быў час, калі беларусы перасядаліся з фурманак на аўтамабілі, а цяжкую, ручную працу ў гаспадарцы і ў полі памалу выручалі машыны і тэхніка. Канчалася эра каня і разам наш пляменна-патрыярхальны свет. Адвечны лад, які грунтаваўся на дамінуючай ролі бацькі ў сям'і і вясковых кланах, пахіснуўся, трациў на значэнні. Мянялася мараль. Неспакойную атмасферу гэтых часоў ілюструюць тадышнія загалоўкі рэпартажаў: «Крадуць не толькі ў горадзе», «Агрэсіўны подых сучаснасці», «Самагонка і частушкі», «Зарасце нас пушча». Апошні загаловак датычыў пушчанскай вёскі Палічна, дзе пражывала сорак старых кавалераў, якія тапілі свой экзістэнцыяльны боль у кілішку і разважалі пра блізкі канец свету, які меў прыйсці з боку радзімай прыроды.

Адміранне беларускіх вёсак і хутароў і выгасанне моўных крыніц абмежавала, хаця не спыніла, працэс развіцця падляшскага рэпартажу. Пасля перамен 1989 года наступае новае адраджэнне беларускага духу. Пашыраецца школьніцтва ў гарадах, растуць як грыбы пасля дажджу грамадскія арганізацыі, ажыццяўляюцца кантакты з Рэспублікай Беларусь. Беларускасць набывае новую якасць, дзе адной з важнейшых задач будзе свядомая архівацыя жыцця, гістарычнай памяці, вуснай народнай творчасці, традыцыйнага дойлідства, ментальных звычак і прыкмет. Паступова мяняецца арыентацыя «Нівы», якая ўсё часцей звяртаецца да гарадскога чытача. Гэта таксама выклік для рэпратажыстаў, якія згодна з духам часу падарожнічаюць па свеце і часта па сваёй ініцыятыве, пашыраюць тэрыторыю і тэматыку падляшскага рэпартажу. На старонках «Нівы» з'яўляюцца падарожныя запісы і рэпартажы з Еўропы, Амерыкі, Азіі.

Вядома, найбольш увагі будзе адведзена Беларусі. Ніўскі рэпартажыст упершыню назірае сваю духовую айчыну з перспектывы глыбінкі. Ён начуе па хатах сваіх герояў, аднатоўвае размовы на вясковых лавачках і ў гарадскіх парках, гутарыць з пісьменнікамі, настаўнікамі, ксяндзамі і праваслаўнымі манахамі, аднатоўвае гістарычныя сувязі з Беласточчынай, запісвае лёс перасяленцаў, якія пакінулі Беласточчыну ў сумнавядомы 1946 год, сустракае ўраджэнцаў Беласточчыны, якім не пашанцавала вярнуцца на радзіму пасля сібірскай ссылкі ці мабілізацыі ў Чырвоную Армію.



Ля Прыпяці і возера Нобэль

Асаблівае месца на старонках «Нівы» займае Палессе. Не выпадкова. Разам з зніканнем натуральнага беларускага свету, грамадскія арганізацыі,



асветныя ўстановы і цэнтры культуры сталі звяртацца да этнаграфіі і фальклору. Дапамогу і каштоўную падказку ў гэтай галіне прапануе Беларускае Палессе. Між арганізацыямі завязваецца супрацоўніцтва і абмен інфармацыяй на тэму аўтэнтычнага фальклору. Ніўскі рэпартажыст прыглядзіцца штодзённаму жыццю палешукоў, аднатуе настрой і цывілізацыйныя перамены гэтага архаічнага рэгіёна, пазначыць аналагі з Падляшшам. Асаблівую ўвагу прысвеціць асобе паэта Анатоля Сыса і Прыдняпроўскаму Палессю, вёсцы Гарошкаў і Дняпру, якія стануць інспірацыяй для новага цыкла падарожных рэпартажаў пад загалоўкам «Дзядоўскае турнэ з Анатолем С.», выдадзенага асобнай кніжкай.

Палескі рэпартаж вернецца на старонкі «Нівы» праз пяць гадоў і ў гэты раз будзе датычыць паўночнай тэрыторыі Украіны. Вобразы, эмоцыі і каларыт гэтага архаічнага фрагменту свету, з залежамі бурштыну і святымі азёрамі, у якіх паводле легенд затопленыя цэрквы, прамовіць як дакрананне да жывых пластоў мінулага, асаблівы паварот да эры каня.

Апошні цыкл пад загалоўкам «У палескай глыбінцы» друкуецца з вясны 2014 года. Гэта вандроўка па верхнім цячэнні Прыпяці, дзе цэнтральнае месца займае духовая культура прыпрыпяцкіх палешукоў. Там не толькі пра ваду і чары, шмат месца адведзена вайне, вікінгам, афрыканскай чуме свіней, бездарожжам, патрыярхальнай мадэлі сям'і, людскай дабрыні. Гурманы і аўтары кулінарных праектаў нанова адкрыюць кулінарныя рэцэпты і кіндзюк з тэрмінам прыдатнасці да спажывання «на сто гадоў» і настойку з бярозавага соку на лясным мёдзе. Рэпартаж, следам старажытных варагаў, ідзе па цячэнні Прыпяці і яе галоўных прытоках Туры, рацэ Цыр, Стаходзе, Гарыні, Льве, дакранаючы моўных і пісьмовых крыніц ад часоў Герадота. Не менш важныя тут эмоцыі, эстэтыка, якія абуджаюць цікавасць і смак да радзімай падляшскай спадчыны і прыроды, якая з перспектывы архаічнага Палесся, набывае не толькі сентыментальную вартасць, а спрычыняецца да новага адкрыцця і новых дарог для рэпартажу, яго ўніверсальнасці і агульналюдскіх каштоўнасцей.

**Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦАЮК**

*(даклад быў прачытаны ў час юбілею 60-годдзя «Нівы», 26 лістапада 2016 г.)*



Валодзік Мартынюк з Вэтлаў



Вышыўка на кашулі, сяло Невір

ISSN 0546-1960